


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714




http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 31 (3247) Год LXIII | Беласток, 5 жніўня 2018 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

# Трэцяя «Перапяліца» ў Тапорках



❖Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**

**Солтыс вёскі Вяслава Бакун, сяляне і Гарадскі асяродак культуры, спорту і рэкрэацыі ў Кляшчэлях 22 ліпеня ўжо трэці раз наладзілі ў Тапорках абрадавае мерапрыемства «Перапяліца». Жыхары вёскі з дэталямі запрэзентавалі публіцы як калісьці вастрылі косы, зажыналі жыта, жалі сярпамі і касілі яго косамі. Вяскоўцы паказалі як рабілі ў мінулым пярэвяслы, якімі вязалі збожжа ў снапы, а тыя састаўлялі ў мыдлі. Пазней мужчыны малацілі збожжа цапамі, а жанчыны ачышчалі зерне на рэшаце. Аднак галоўным момантам сустрэчы было выкананне з недажатага збожжа ўпрыгожанай кветкамі і рабінай перапяліцы. Падчас жніва і самога перапялічнага абраду жнеі і жняцы спявалі жніўныя песні, дзеткі збіралі каласкі жыта, якіх не падабралі жнеі, а пасля жыхары Тапорак частавалі ўсіх сабраных стравамі, падрыхтаванымі паводле даўніх рэцэптаў.**

У нядзелю перад святліцай у Тапорках сталі збірацца сяляне, члены музычных калектываў і жыхары Кляшчэлеўскай гміны, Бельска-Падляшскага, Гайнаўкі і нават Беластока. Жыта прызначане для жніўнага абраду «Перапяліцы» расло непадалёк ад святліцы, на ўчастку Сцяпана Краўчука. Удзельнікі мерапрыемства пайшлі туды, спяваючы жніўныя песні. Наперадзе крочылі члены беларускага калектыву «Арляне» з Орлі. Солтыс Тапорак Вяслава Бакун, яе муж Мікола, Віталіс Соха і Зоя Майстровіч з Рудутаў, якая родам з Тапорак, кіравалі ўсімі этапамі жніўных прац і прэзентацыяй абраду «Перапяліцы». Да іх далучылася Валянціна Марціновіч з Краснага Сяла. Перад жнівом сабраныя паглядзелі як у мінулым жняцы кляпалі і вастрылі косы. На зажынкі першымі выйшлі жанчыны і пачалі спяваць жніўныя песні. Пазней наперамен мужчыны з Тапорак сталі касіць жыта касой, а жанчыны падбіралі яго. Паказвалі яны як у мінулым выконваліся пярэвяслы, якімі жыта звязвалі ў снапы. Пазней састаўлялі снапы ў мыдаль, дзе дзевяць снапоў пастаўленых вертыкальна прыкрылі трыма снапамі пакладзенымі на іх гарызантальна. Такім прыкрыццём з трох снапоў карысталіся нашы продкі, каб зберагчы дзевяць апошніх снапоў ад некарыснага ўздзеяння дажджу. Галоўным момантам жніва было выкананне ўпрыгожанай кветкамі і рабінай перапяліцы з недажатага збожжа. Усё гэта спалучана было ў змястоўна запрэзентаваны жніўны абрад. Падчас жніва калектывы з Беларусі — «Завіца» з Раздзяловічаў і «Павалякі» з Обчына — займальна спявалі жніўныя песні. Пазней падмянілі іх «Арляне» з Орлі і калектыў «Дабрына» з Беластока.

— Назва абраду выводзіцца ад перапёлкі — птушкі, якая чырыкала ў збожжы ў час жніва, — сказала Зоя Майстровіч.

— Калектывы з Палесся «Павалякі» і «Завіца» — асаблівыя. Раздзяловічы і Обчын — вёскі распалажаны на палескіх балотах, жыхары якіх доўга жылі адрэзанымі ад акружаючага іх свету і кантакталіся з ім рэдка. Стварылі яны сваю непаўторную манеру спеву, якую тут прэзентуюць. Іх абрадавыя песні розняцца ад фальклорных абрадавых твораў суседніх рэгіёнаў Беларусі і нашага Падляшша. Гэтыя непаўторныя каштоўнасці можам тут пачуць. Калектывы «Завіца» і «Паваляк» ў рамках Падляшска-Палескіх жніўных сустрэч «Олень по бору ходіт» удала выступілі ў Катлах, Дашах, Грабарцы і Сычах, будуць яшчэ спяваць у Ягуштове. Іх палескі спеў успрымаўся жыхарамі нашых вёсак з вялікай зацікаўленасцю, — сказала музычны кіраўнік студзіводскай «Жэмэрвы» Анна Фіёнік, якая апекавалася калектывамі з Беларусі.



— Мы ў моладасці выходзілі за вёску паспяваць. Вучыліся спеву ад сваіх мам, седзячы на лавачках і падчас работы ў полі. Наша культура багатая. Хочам запрэзентаваць нашы песні як найбольшай публіцы, — заявілі палескія спявачкі.

Збожжа сохла на палях і ўжо сухім звозілася ў клуні, а калі ў іх не месцілася, снапы складвалі ў стагі і восенню малацілі цапамі, а пазней коннымі малатарнямі. Пасля запрэзентавання цяжкай жніўнай працы, якую ўручную выконвалі ў Тапорках яшчэ ў пяцідзясятых і пачатку шасцідзясятых гадоў мінулага стагоддзя, Мікола Бакун і Мікола Барона паказалі, як дзве асобы наперамен малацілі збожжа цапамі, што было яшчэ цяжэйшым ад самога жніва.



— Каб малаціць цэпам, трэба спачатку налаўчыцца, як правільна біць ім па калоссі, каб зерне добра аддзялялася ад каласкоў, — гаварыў мужчына сталага ўзросту.

На жаль, цэп Міколы Бароны разляцеўся і прыйшлося малаціць адным цэпам. Як пасля аказалася, малацьбіты намалацілі мнагавата прыгожага збожжа, якое Зоя Майстровіч пачала расчышчваць рэшатам. Мікола Бакун са змалочанай саломы выканаў кулікі, якімі ў мінулым пакрывалі хаты і ўсе гаспадарчыя будынкі. Дэталёвае пака-

працяг☞10





# Роздум

Сумна. І прыкра. Памёр аўтар бессмяротнага твора „Жыццё і неверагодныя прыгоды салдата Івана Чанкіна" Уладзімір Вайновіч. Але прыкра не зусім з тае прычыны. Мы ведаем, што ўсе людзі паміраюць рана ці позна. Кожны, хто нарадзіўся, абавязкова памрэ. І памерці, пражыўшы 85 год як Ударзімір Мікалаевіч, не вялікая нечаканасць, тым больш трагедыя, улічваючы тое, з якой людскай вартасцю пражыў ён сваё жыццё, з якім гонарам прайшоў свой зямны шлях.
А прыкра таму, што за свае 50 з большым год я асабіста не змог знайсці часу, сіл, адпаведнага псіхалагічнага настрою, проста чалавечага абавязку, каб купіць квіток на цягнік, праехаць нейкіх паўтары тысячы кіламетраў і асабіста выказаць сваю павагу і захапленне жыццём і творчасцю гэтага чалавека. А хацеў.

І ездзіў жа і па паўтары тысячы кіламетраў, і па больш. І на машыне, і на цягніку. І самалётамі лятаў. І толькі ў такія хвіліны, калі памірае вось такі чалавек, пачынаеш разумець, што не заўсёды лятаў туды, куды трэба. І не трэба зараз апраўданняў, кшталту такіх, што ўсюды не патрапіш. Бо яны не праўдзівыя, тыя апраўданні. Не трэба ўсюды. Трэба толькі туды, куды трэба. А такіх месцаў не так ужо і шмат.

І носімся мы як угарэлыя. І не заўсёды туды. Як быццам хочам сваім уласным жыццём пацвердзіць вялікую мудрасць, напісаную ў найвялікшай кнізе, што жыццё ёсць мітусня мітусней і іншая мітусня.

І таксама справа не ў тым, што Уладзіміру Мікалаевічу была патрэбна мая, ці каго-небудзь яшчэ асабістая падтрымка ці адабрэнне ягонай дзейнасці і жыццёвай пазіцыі. Як сцвярджаюць тыя, хто быў знаёмы з ім непасрэдна, то спадар Уладзімір быў надзвычай самадастатковы чалавек. Яго абвостранае пачуццё справядлівасці і імгненная рэакцыя на фальш не залежала ад колькасці людзей, якія прызналіся, што нейкім чынам падзяляюць яго погляды. Ён проста быў такім, якім быў. Справа ў тым, што гэта было патрэбна найперш мне самому. І справа ў тым, што ўсё адно мушу паехаць хоць памяць ушанаваць.

*Вось калісьці паміру,*
*мы калісьці заўжды паміраем,*
*Як бы так падгадаць,*
*каб не сам, каб у плечы нажом,*
*А забітых шануюць, адпяваюць і цешаць іх раем,*
*Не скажу пра жывых,*
*а нябожчыкаў мы беражом.*

Так напісаў яшчэ адзін вялікі чалавек, да якога я некалі таксама хацеў патрапіць персанальна, Уладзімір Высоцкі. Тады я быў малады, не адважыўся. А каб узяў ды паехаў, то як кажуць у народзе, зараз было б што ўспомніць. І не важна што. Можа Уладзімір Сямёнавіч і на парог свайго пад'езда мяне не пусціў бы. Можа выпіхнуў бы з кватэры ў шыю, як гэта было неадной чы з няпрошанымі гасцямі. А можа ўзяў бы з маіх рук бутэльку горкай і запрасіў бы за стол. І я першы раз у сваім жыцці напіўся б. З Высоцкім. А так той момант, калі я першы раз напіўся і так надышоў. Толькі гэта было без Высоцкага. Цешыць толькі тое, што хоць пад яго песні.

І да Валерыі Навадворскай з сябрам збіраліся. Нават прапановы ёй падрыхтавалі, каб перакладаць яе неўміручыя думкі на нашу мову і друкаваць іх у Беларусі, на яе гістарычнай радзіме. І таксама знайшліся іншыя справы. І таксама не паспелі.

Канешне ж, хочацца сказаць пару не самых лепшых слоў пра расійскую ўладу. Яны не толькі да іх жывых не завітвалі, але ні словам не абмовіліся пра іх нават у дзень іх смерці. Як і беларускіх уладатараў не было, прыкладам, на пахаванні Васіля Быкава. Але што пра іх гаварыць. Наўрад ці на іх магілы прыйдзе столькі ўдзячных суайчыннікаў, колькі будуць прыходзіць на магілу Уладзіміра Вайновіча. Адзін мой знаёмы так не любіць маскоўскую ўладу, што неяк мне прызнаўся, што каб у Маскве не было такіх магіл, як магіла Высоцкага, то жадаў бы разбурэння гэтага горада як разбурэння Садома і Гаморы. Але не можа жадаць такога з-за гэтых вялікіх і сумленных людзей, якія там упакоіліся. Тут усё як некалі сказаў той жа Уладзімір Высоцкі.

*Одних мы чтим публично,*
*во всю рукоплеща,*
*К другим приходим лично, на кладбища.*

Вось так. А зараз трэба хоць на магілкі з'ездзіць, раз да жывых не здолеў. І не адкладваць, а то і гэтага можна не паспець.

**Віктар САЗОНАЎ**



# Чужы нечужы

Ці трэба мне баяцца Чужога? У шчаслівым для мяне 2006 годзе, калі я жыў у Нью-Йорку, мая добрая знаёмая, журналістка і падарожніца даверыла мне на год сваю трохпакаёвую кватэру ды адправілася ў падарожжа вакол свету. Аплата за ўсю кватэру, якая фінансуецца ў значнай ступені за кошт горада, была проста забаўная — усяго 850 долараў ЗША, але для мяне ўсё ж занадта высокая. Таму я вырашыў здаць у субарэнду пакой, па меншай меры, за эквівалент паловы кватэрнай платы. Неўзабаве пераехаў у свабодны пакой Мірза, мусульманін з Бухары, выпускнік літаратуразнаўства Маскоўскага ўніверсітэта ў савецкі час і вышэйшых каранічных даследаванняў у Самаркандзе пасля распаду СССР. Мужык саракагадовы, бацька чацвярых дзяцей, муж адной жонкі. Гэта было незвычайнае спатканне розных культур. Шок і ў той жа час займальны кагнітыўны вопыт. Я запісваў свае заўвагі і сёння дазваляю зрабіць іх здабыткам грамадскасці.

«Мірза не прaцiрае мокрай падлогі пасля рытуальных купанняў, да якіх выкарыстоўвае пластмасавыя бутэлькі. Улічваючы іх вельмі карысныімі, ён выкарыстоўвае іх у час абмывання палавога члена і анусу, якраз перад малітвай, аб чым апавядаў мне без ценю збянтэжанасці. Не менш азіяцкага хаосу Мірза завёў у кухню. Месца для ежы на стале проста не хапае. Запаўняюць яго талеркі і талерачкі з печывам, фруктамі, арэхамі і мусульманскім смакоццем. І ўсе гэтыя пасудзейкі старанна пакрытыя анучкамі, якія пасля адкрыцця паказваюць сваё апетытнае змесціва. Я мяркую, што яны гэтыя прысмакі абараняюць ад мух, якіх у Нью-Ёрку няма нават на лякарства, асабліва вясной. Я памятаю, як летам гэтак жа рабіла мая бабуля, але і ў вёсцы, дзе яна жыла, мух было значна больш, чым ежы на стале.

Зробленыя грошы, апрача 15 долараў на дробныя выдаткі, Мірза дае маме, дынамічнай жанчыне, вельмі рашучай, якая кіруе яго фінансамі ў адпаведнасці з пагадненнем паміж імі па невядомым мне кантракце. Таму мой сусед па пакоі, як правіла, не турбуецца ні пра што, усе клопаты і спадзяванні аддаючы добраму Богу і знаходлівай маме. Не турбуецца аб штомесячны квіток на метро, пра адзенне і пра ежу. Усё гэта купляе яго маці. Яна наведвае Мірзу ў суботу, прыбірае і варыць ежу, якую дзеліць на часткі: сняданак, ленч і вячэру ў халадзільніку і вяртаецца да працадаўцаў, у якіх жыве, верачы ў сваё кулінарнае мастацтва і апетыт сына.

Мірза дзеліцца ежай са мной з радасцю, якую весела, амаль раптам і ў вялікіх кольсацях паглынае. А яго мара, каб памерці як мага хутчэй і перайсці ў Абрагамавае ўлонне, дзе і гнуткія гурыі, і вялікая, бясконцая радасць ад прысутнасці Бога — што для мяне папахвае фанатычнай ідэяй — што тлумачыць яго спецыфічныя адносіны да ежы.

Мусульмане мацнейшыя ў веры, і, магчыма, ідэях, якіх на Захадзе пачынае не хапаць. Мірза з'яўляецца штодзённым святым з незвычайнай канцэнтрацыяй метафізічнай самасвядомасці. Багатае харчаванне гэта для яго малітва падзякі; малітва з'яўляецца верай. А вера — абяцаннем пасмяротнага, бясконцага існавання ў чароўнай асалодзе. Абяцанне, якое, несумненна, будзе здзейснена

Калі я слухаў выказванні Мірзы, у вышэйшай ступені мірныя і павышаючыя каштоўнасць кожнай чалавечай асобы, незалежна ад яе рэлігіі, у рэшце рэшт напаўняў мяне страх. Зямное жыццё нічога не значыць для яго. З фанатычнай верай ён кажа, што ўзнагародай за пакуты жыцця будзе пасмяротнае існаванне ў поўным здзяйсненні індывідуальных патрэб і ў благаславенні Божага супакою.

Мірза амаль нічога не ведае пра фізіялогію жанчыны ды наогул пра яе сексуальнасць. Мірза тужыць па гурыях. Жонку пасваталі яму бацькі. Пасля некалькіх сустрэч з чужой дзяўчынай вырашыў ажаніцца з ёю. Няма і не было ніякай любові ў іх адносінах, хоць іх узаемнай павагай можна абдзяліць з дзясятак страчаных у эмацыйных спрэчках шлюбных пар. Сведчаць пра гэта лісты, якія яны пішуць адзін аднаму. Прачытваў мне іх усхваляваны Мірза. Бо яго жонка і дзеці засталіся ў Бухары. На маё пытанне пра каханне ў мусульманскіх шлюбах, Мірза грэбліва махнуў рукою, і з асалодай у вачах стаў пажыраць смачныя творы мірскага свету, усё тыя араматныя мяскі, піражкі, салацікі, як згаладалы пасля посту дэрвіш. Дык сёння я вып'ю віно за тваё здароўе, Мірза.

**Міраслаў ГРЫКА**



## Сваімі вачыма

# Мяжа ўцякання і спадзявання

За працай, за хлебам, за лепшым уцякаюць з ваеннай зоны і распачынаюць выбудоўваць сваё жыццё часта з нуля. Тут усё з'яўляецца выбарам кожнага дня, кожнай гадзіны. Выехаць за працай, зарабляць грошы, ці інвеставаць іх назад у сваю ўкраінскую будучыню? Або толькі зарабіць, каб пракарміць сям'ю і жыць бягучым днём без вялікіх спадзяванняў на лепшае? Ці мо лепей пайсці па шляху класічнага, эканамічнага эмігранта, які ўсімі сваімі сіламі, заціснуўшы зубы, хоча назаўсёды стаць грамадзянінам іншай краіны? Тады расплысціся і асімілявацца ў культурным моры іншых народаў? Які тут шлях правільны, калі твае спадзяванні на справядлівыя перамены ў краіне надалей застаюцца ілюзіяй? І не хочаш ужо думак пра чарговы Майдан, бо на крыві і слёзах сумленных людзей свой палітычны і карупцыйны капітал надалей будуць нарошчваць перафарбаваныя зграі тых жа саміх шакалаў. Не ваўкоў, бо ваўкі ганарлівыя, за сваю будучыню і свабоду змагаюцца да апошняга. Ваўкі — самы лепшы звярыны варыянт разумення міфічнай казацкай справядлівасці.

Можа менавіта і таму арганічнае памкненне беларусаў да справядлівасці спарадзіла на нашых землях сіндром легендарнага беларускага ваўкалака. Так развітага і апісанага касмічна-прыроднага асобаўтварэння не знойдзеш у іншых дзяржаваўтваральных легендах нацыі. Нагадаю, што легендарных заснавальнікаў Рыма пракарміла ваўчыца, але яны не сталі ваўкалакамі. А тут наш праваслаўны князь Усяслаў Чарадзей ці ж сваю магутнасць і сілу наўпрост не браў са сваёй праабражэнскай воўчачалавечнасці? Бо ж калі гэтай праўды не знаходзіш у чалавечым свеце, у адчаі ты згодны яе шукаць у прыроднаэзвярыным родзе. І гэта не з'яўляецца аніякім дагаворам з чортам, а проста дзейсным спосабам выжывання і адваёўвання сваёй зямной і духоўнай прасторы, каб не звар'яцець. Прашу прабачэння за гэтае адступленне ад галоўнай тэмы, але відаць поўня і так рэдкае поўнае зацьменне Месяца ў мінулую пятніцу пакінулі заўважальны адбітак і на маіх роздумах. Нябачная пупавіна ваўкалацтва спалучае хіба надалей нас у астральна-лясной беларускай тутэйшасці.

Вяртаемся аднак да памежнай тутэйшасці. Аграмадныя чэргі на польска-ўкраінскай мяжы маюць і свае вытокі ў заканадаўчым акце... польскай дзяржавы, якая хоча на амаль мільённай арміі тут працуючых украінцаў не толькі зарабляць, але рознымі спосабамі прывабліваць да пастаяннага жыхарства ў сваёй краіне. Наўпрост можна нават сказаць, што дзясяткі тысяч людзей з дня на дзень будзе станавіцца заложнікамі сваёй ашчаднасці і хітрунства польскай адміністрацыі. Ну і зразумела, прытым папаўнення польскага бюджэту. Менавіта грамадзянам Украіны дазволена набываць і рэгістраваць аўтамашыны ў Польшчы. У такім выпадку ўкраінцам не трэба плаціць высокага мытнага збору, прывозячы машыну на радзіму. Гэта магчымае пры выкананні дзвюх умоў: саўласнікам аўто мусіць быць грамадзянін Еўрасаюза (вядома, найчасцей бывае ім польскі калега), другая ўмова, будучая ўжо адказам украінскіх мытных службаў на складваючуюся сітуацыю, гэта абавязковае перасяканне такой машынай польскай мяжы раз на пяць дзён. Зразумела, што такая юрыдычная сітуацыя моцна ўплывае на памежны рух і час чакання на яе перасячэнне. Паводле статыстык у Польшчы ўжо зарэгістравана звыш шасцідзесяці тысяч такіх машын, а іх колькасць надалей расце, асабліва ў камунікацыйных аддзяленнях Люблінскага і Падкарпацкага ваяводстваў. У многіх выпадках здараецца і так, што самаходы не рэгіструюцца па палове, як мела быць на грамадзяніна Украіны і Польшчы, а напрыклад паляк становіцца ўласнікам толькі дзесяці адсоткаў машыны, або яшчэ і менш. У такім выпадку адкрытай таямніцай з'яўляецца тое, што на такіх дамовах зарабляюць польскія партнёры. А законам гэта забаронена. Беручы агульна пад увагу, што кожная з машын мусіць перасякаць мяжу раз у пяць дзён, не цяжка палічыць, што дае гэта ўжо хаця б мінімум чатыры з паловай мільёнаў пераездаў праз мяжу цягам года. Статыстыкі растуць, грошы плывуць, а людзі ў чэргах плачуць і праклінаюць. І чаканне асабліва па дванаццаць гадзін у выходныя з'яўляецца адным з вынікаў гуляння ў абсурдныя законы быццам так званых узаемаспрыяльных сабе дзяржаў. Пра іншыя парадоксы памежных шляхоў у наступным тыдні.

**Яўген ВАПА**

# Думаць палескім падмуркам



— А ці ўмееце даіць кароў? — спыталі мяне ў палескім Зарэчным.

І гэта пасля таго, як па жаданні публікі я расказала пра італьянскае Бары і каралеву Бону. Цікавасць да славутай каралевы ў гэтым балотна-бурштынавым куточку свету аказалася апраўданай і на месцы. Якраз у наваколлі Зарэчнага знаходзіцца курган Боны. Памяць пра каралеву-рэфарматарку запісалася чырвонымі колерамі ў палескіх вышыванках. У такі спосаб якраз праз узор на вышыванцы ці тканіне старажытныя культуры фіксавалі памяць пра падзеі і славутыя асобы...

У школьным музеі ткацтва і вышыванкі ў Мутвіцы ёсць ручнік з выявай жанчыны з каронай у нагах. Апякунка музея, спадарыня Валянціна Тумаш-Ляхавец пераканана, што на ручніку адлюстравана Бона Сфорца. Каралева вышыта на рытуальнай тканіне, то-бок на адмысловым ручніку, які рыхтавалі на смерць і клалі разам з нябожчыкам у дамавіну. Такім чынам мясцовыя палешукі вызначалі ёй ролю вядучай і апякункі ў замагільным свеце.

Усё гэта напамінала працяг культу Дэметры, у якой старажытныя прасілі заступніцтва для сваіх нябожчыкаў, прыносілі ахвяраванні, ладзілі ў яе гонар гульбішчы і турніры. Пра памінальныя трызны на тэрыторыі больш-менш сучаснай Украіны і Беларусі заяўляе Герадот у сваіх «Дзеях» пяць стагоддзяў да нараджэння Хрыста. Старажытны вандроўнік засяродзіўся на метафізічных схільнасцях жыхароў верхняй Прыпяці. Самы чарадзейны запіс датычыць неўраў, якія на думку ніжэйпадпісанай не зваліся на зямлі:

«Гэтыя неўры здаюцца чарадзеямі. Скіфы і пражываючы ў Скіфіі грэкі апавядаюць пра іх, што заўсёды, раз у год, кожны неўр на некалькі дзён ператвараецца ў ваўка, пасля чаго зноў вяртаецца да ранейшага выгляду. Я папраўдзе ў іх байкі не веру, — адзначае Герадот, — аднак яны так сцвярджаюць і прысягаюць».

Яшчэ да сустрэчы ў раённай бібліятэцы, калі разам з Яўгенам Вапам і Віктарам Сазонавым мы пайшлі ў кавярню паснедаць, у куточку непрыкметна выседжвала старая. Хапіла пабачыць яе зрок, каб згубіць усякую ўпэўненасць. Яе позірк клікаў дзесьці ў глыбіню часу, далёка-далёка за Герадота і ўсе вядомыя міфы.

— Яна можа зрабіць што заўгодна з чалавекам, — на сцішанай ноце заявіў Віктар.

— Ну! — згадзіліся мы.

Метафізічныя з'явы Палесся не агучваюцца на поўнай ноце. А ўжо напэўна не бяруцца за гэта туземцы. Ды таму ўзнікае падказка ў справе запісаў Герадота. Калі ён гаворыць пра чарадзейныя таленты неўраў, дык карыстаецца інфармацыяй з другой рукі, ад грэкаў, скіфаў ды іншых вандроўнікаў. Гэта яны «сцвярджаюць і прысягаюць». Самі неўры не праяўляюць ахвоты рассакрэчваць племянныя тайны.

Таксама пытанне пра даенне кароў я адчытала не наўпрост, а як своеасаблівую загвоздку...

Ды што казаць!

Мне заўсёды радасна ўспамінаць часы вясковага дзяцінства, імпэт, з якім ірваліся дапамагаць бацькам у гаспадарцы. Той, хто не любіў працаваць, лічыўся абібокам або разлезлым лінагузам. Даіць кароў я навучылася пад уплывам старэйшай сястры, дзесьці ў сем-восем гадоў. Мы спаборнічалі на спрытнасць у руках і ўмеласць прыдбаць прыхільнасць каровы, абласкавіць яе норавы і стыхійнасць.

— У жыцці ўсё можа прыгадзіцца! — паўтарала маці. — Трэба ўмець кожную работу.

Навукі маці не пайшлі ў лес, хаця сапраўдны лес быў ці не найбольшым для мяне захапленнем і крыніцай натхнення. Гэта дазволіла з'ездзіць у Італію да каралевы Боны, затапіцца ў «Дзеі» Герадота, ці адкрываць для сябе новыя прасторы ў свеце і творчасці.





Словам, даенне кароў — гэта беларускі падмурак!

* * *

Звычайна баюся вяртацца да апісанага месца. Так было з Нобелем. Але ўпэўненасці прыдавалі мае анёлы ахоўнікі: бацюшка Павел, рэдактар Яўген Вапа і пісьменнік-гумарыст Віця Сазонаў. Перад блакітным будынкам бібліятэкі з дошкай у гонар Сяргея Грахоўскага чакаў нас прывітальны камітэт. Гэты момант быў настолькі кранальным, што ажно растапіўся ў памяці. Запамяталіся добрыя ўсмешкі людзей і хваляванне ў голасе дзетак, якія па чарзе дэкламавалі вершы... Едучы ў Нобель я думала пра адно: а ці пабачу ўсіх сваіх герояў? А яны, нягледзячы на канікулы і абавязкі, у святочных строях, зладзілі мне павітальны камітэт. Хлебам і соллю вітала сама спадарыня Валянціна Ташлыковіч.

— Памятаю, калі пані Ганна прыехала і ішла па вуліцы ў доўгай сукенцы, з распушчанымі валасамі... То мы падумалі, што гэта цыганка... што курэй трэба хаваць, — успамінала ўжо на зале, пад здаровы рогат грамады спадарыня Валянціна.

Даволі дзіўна ў часы віртуальнай рэчаіснасці вітацца з героямі кніжкі. Найстарэйшая жыхарка Нобеля баба Маня прыпэпала з дапамогай кіёчка з другога канца сяла, ажно з Ражка. Яна, таленавітая спявачка, крыніца народнай мудрасці, народная лекарка, паблаславіла нашу тройцу:

— Каб у здароўі і добрай славе маіх гадоў дажылі... і яшчэ больш, — пажадала 94-гадовая старажылка... (гэтыя словы быццам дабытыя са старонак кніжкі!).

Разам мае цудоўныя гераіні — бабуля Галя Шклёда і Галя Багдановіч. І спадар Коля Ташлыковіч. Зараз усе мужыкі зайздросцяць яму шафёрскіх талентаў (гэта прачытаў на сустрэчы бацюшка Паўло, які арганізаваў і павёў прэзентацыю). Мой герой прыгожа аддзячыў. Ён налавіў усякай рыбы з легендарнага возера і прыдбаў мясцовыя напоі. На стале красаваўся печаны язь велічынёй парсючка! Быў фаршыраваны шчупак, рыбныя катлеты па-нобельску, смажаныя акуні, ліні і карасі. Разам падавалі мёд з пасекі спадара Ташлыковіча.

Яшчэ большым сюрпрызам былі музычныя падарункі. Нобельскія спевакі і пявуні праспявалі песню пра «Гандзю». Аказалася яшчэ, што ў мястэчку ведаюць *«Коло млына»*, якую на ляту падхапілі на галасы і зацягнулі з такой моцай і прыгожасцю, што не расказаць... Даўно ўжо не пабывала я ў такой пявучай, натхняльнай кампаніі... Гэта як нарадзіцца нанова.

* * *

Незабыўным застаўся і візіт у бацькоў бацюшкі Паўла на хутары *Радовэль*. Пакуль мы аглядалі панадворак, на стале імгненна з'явілася закусь і чарка. Прылюднасць і ўвага для выпадковых гасцей яшчэ раз пацвердзілі славутую палескую гасціннасць. А самае незвычайнае ў тым, што мы не адчувалі сябе замежнымі гасцямі. Наадварот, здавалася, што толькі павярнуліся ў часе і гасцявалі як раней у нас на Падляшшы. Аказалася, што палешукі, нягледзячы ў якіх яны не жылі б краінах, адзін народ.

У час падарожжаў і прэзентацый я ўвесь час прыгадвала яшчэ адну гераіню. Баба Ліда, у прыватнасці цешча бацюшкі Паўла, пабывала ў шпіталі. Уся сям'я жыла паміж плябаніяй і шпіталем. Баба Ліда, родам з Берасцейшчыны, чатырнаццаць гадоў пражыла з дыягназаваным ракам. Жанчына захапіла мяне пасіяй, з якой гаварыла пра ткацтва. Не хопіць запаматаць і паўтарыць узор, — талкавала яна, — у ткацтве трэба думаць і перажываць колерамі і ўзорамі. Тады атрымаецца ўсё нанова, прыгожа, суцэльна.

Баба Ліда памерла на тыдні пасля нашага выезду. Некалькі дзён раней, калі мы сядзелі за сталом пры марачанскай царкве, я прыгадвала ясны твар бабулі Ліды. Здавалася, як у час першай сустрэчы, жанчына выйдзе з плябаніі і стане вывешваць на плот свае радзюгі і ходнікі ў архаічныя ўзоры. Яе словы здаліся палескім падмуркам. Як тое пытанне пра даенне кароў!

Тэкст і фота
**Ганны КАНДРАЦЮК**

## Сяброўская сустрэча

Нядзеля, 22 ліпеня — апошні дзень Фестывалю шматлікіх культур і народаў «З вясковага панадворка» ў Чаромсе. Сёлета не ўдалося мне ўдзельнічаць у гэтым мерапрыемстве, паколькі рыхтаваўся да сустрэчы з сяброўкамі-журналісткамі Аняй Шайкоўскай з Радыё Рацыя ды Мірай Лукшай з «Нівы». А запрасіў я іх на чаромхаўскае мерапрыемства. Адзінокаму мужыку, як вядома, не пад сілу было справіцца з кулінарнымі справамі і зрабіць усё, каб належна прывітаць гасцей. Таму дапамагла мне справіцца з гэтай справай дачушка Алінка з Беластока. Не забываў я і аб чаромхаўскім фестывалі. Скрупулёзна фіксаваў «на жыва» фотакамерныя трансляцыі перадач. І зараз ёсць у мяне магчымасць пaглядзець тое, што не ўдалося пабачыць увачавідкі.

З Аняй Шайкоўскай пазнаёміліся мы ў мінулым годзе, калі брала ў мяне інтэрв'ю аб Кузаве. Паколькі мела быць гэта першая наша сустрэча і знаёмства, дык прапанаваў я ўзяць з сабою Міру Лукшу. Сустрэча прайшла паспяхова. Аня зрабіла мне копію радыёперадачы для майго дамашняга архіва. І за гэта ёй вялікае дзякуй. Лічу на далейшае супрацоўніцтва. Бачу — не адказалася. Доказ гэтаму — ніжэйпрыведзены здымак і астатняя, змешчаныя на фейсбуку. Хачу адзначыць, што наша сустрэча прайшла ў мілай, сяброўскай атмасферы, пры сціплым пачастунку (лічу, смачным). Успаміналі мы мінулыя будні, прыгадалі супольных сяброў, падзяліліся навінкамі, затым падаліся ў Чаромху. Аня з Міраю паглядзелі турнір міжнародных каманд па балотным футболе, а я сустрэўся са сваім кампаньёнам Здзіславам Закшэўскім, каб абмеркаваць напрамкі дзейнасці новаарганізаванага Клуба сеніёра.



Пачаўся канцэрт-прамоцыя фалькавай кружэлкі мясцовых калектываў з альбома «Песні не толькі святыя» (Дабрывада, Чаромха-Вёска, Вулька-Тэрахоўская). Перад намі прадбачваліся яшчэ V Агляд выканаўцаў на губным гармоніку, цырымонія заканчэння турніру па балотным футболе ды канцэрт Капэлі Бродаў і калектыву «Паштор Гора». Паколькі маім гасцям надышоў час збірацца дахаты, дык мы падаліся ў Кузаву. Там прадоўжылі святочнае застолле, затым развіталіся, жадаючы сабе ўзаемна: ДА ЧАРГОВАЙ СУСТРЭЧЫ!

**Уладзімір СІДАРУК**

*Фота Анны Шайкоўскай*

## Чаму не інфармуюць?

Зараз невядома, у якія нядзелі не працуюць прадуктовыя крамы ГС у Нараўчаннскай гміне Гайнаўскага павета. Я ўжо тройчы ў ліпені гэтага года не зрабіў з-за гэтага пакупак у Старым Ляўкове і Плянце. Крамы закрыты, а інфармацыі ніякай. Пакупнікі хацелі б ведаць, у якую нядзелю не працуюць крамы ўжо ў наступным месяцы — у жніўні.

Прадаўшчыцы, напішыце і прыклейце ў акне або на дзвярах крамы картачкі з інфармацыяй! Буду вам удзячны не толькі я. Пакупнікоў трэба шанаваць.

**(яц)**

# (Не)патрэбныя сабакі

**1 ліпеня адзначаецца Дзень сабакі. У мінулым сабака быў першай прыручанай чалавекам жывёлай. Сабакі верныя сваім гаспадарам. На жаль, часта бывае, што людзі гэтага не дацэньваюць і выкідаюць адданага сабе сабаку здалёк ад свайго дома, як непатрэбную рэч. Такія падкідышы трапляюць і ў Арлянскую гміну, у тым ліку і ў самую Орлю.**

### Гміна не дбала

Вялікай праблемай для жывёлаводаў, сялян Арлянскай гміны былі ў 2001 годзе і раней ватагі валацужных бяздомных сабак (таксама ваўкі ды часта і зладзеі). Пакінутыя на пашы нанач, а часам і ўдзень, цяляты, жарабяты і авечкі станавіліся ахвярамі галоднай звярыны. Многія сяляне начавалі на пашах са сваім дабыткам. Згодна законам, справай павінна заняцца гміна, але тадышнія ўлады абыходзілі яе бокам. Сяляне цярпелі страты, справы траплялі ў суд і гміна плаціла кампенсацыі. Закон аб ахове жывёл сцвярджае, што апека над бяздомнай жывёлай і вылоўліванне яе — гэта ўласная задача гміны. Трэба ведаць, што страхавая кампанія PZU не толькі адмаўляецца плаціць сялянам кампенсацыю за ўчыненыя сабакамі шкоды, але нават не страхуе ад такіх выпадкаў.



### Кошт бяздомнасці сабак

З 2016 года на тэрыторыі Арлянскай гміны абавязвае Праграма аховы бяздомнай звярыны ды прадухілення бяздомнасці звярыны на тэрыторыі Арлянскай гміны, прынятая 22 лютага 2016 года пастановай Гміннай рады.

Зараз значна менш гаспадарак займаецца гадоўляй кароў ці коней. Маладым земляробам больш даспадобы раслінная прадукцыя. Нямногія старэйшыя сяляне пачалі гадаваць авечак у сувязі з даплатамі з ЕС. Праблема бяздомных сабак актуальная ў гміне, а гэта „дзякуючы” людзям звонку, якія пастаянна падкідваюць сюды сваіх сабак. На вылоўліванне бяздомных сабак расходуецца шмат грошай з гміннага бюджэту. Кошт адлову і ўтрымання ў прытулку бяздомнага сабакі гэта 1880 злотаў, а шчанюка — 400 злотаў.

У 2016 годзе на рэалізацыю Праграмы прызначана 36 тысяч злотаў і адлоўлена 27 бяздомных сабак (у тым 9 шчанят); у 2017 годзе адведзена на гэта 44 тысячы, а зрасходавана 38 240 злотаў — адлоўлена 20 сабак і 5 шчанят (апрача гэтага двойку сабак нехта адаптаваў без дамовы з гмінай). На бягучы год таксама адведзена 44 тысячы злотаў; да месяца сакавіка адлоўлена 4 сабакі і 10 шчанят, на што зрасходавана 11 200 злотаў.

### Хоча мець свайго гаспадара

Здарылася ў Орлі, што някідкі безгаспадарны сабачка спадабаецца людзям, яны яго любяць, падкормліваюць, але няма ахвотных яго засвоіць. Адкуль узяўся — невядома. Зіму і пачатак вясны 2018 года пракачаваў па вуліцы Сянкевіча малы чорны сабачка. Неяк выжыў, а вясною штораз больш людзей стала яго падкормліваць. Мне ўдалося намовіць свайго калегу Сцяпана Кубаеўскага каб яго адаптаваў, тым болей, што раней страціў свайго падобнага з выгляду сабачку. Так і атрымалася. Сабачка, а ў сапраўднасці сучка, быў вясною адаптаваны, задбаны і прыручаны. На жаль, гэтую двухмесячную дружбу спыніла нечаканая смерць гаспадара. Сабачка зноў стаў беспрытульным і сам вярнуўся жыць на вуліцу Сянкевіча і на негароджаныя панадворкі, па начах чуваць ягоны брэх, днямі дазваляе некаторым нават пагладзіць яго, але ніхто не хоча яго адаптаваць. Цікавае, што гэтага сабачку («Філіпка» — так называў яго гаспадар) часам можна сустрэць на недалёкіх могілках, дзе пахавалі ягонага гаспадара. Людзі кажуць: «Бедалага, а які разумны».

### Забарона вылоўлівання

Зараз бяздомныя сабакі, якія апрача пагрозы для меншай гаспадарскай жывёлы ды і для людзей (могуць пакусаць), асабліва тыя, што валочацца па звалках, могуць прычыняцца да разносу шаленства ды іншых хвароб; яны, у сілу законаў, пакінутыя самім сабе.

Згодна распараджэнню падляшскага ваяводы № 1/2018 ад 7 чэрвеня 2018 г. наконт знішчання афрыканскай свіной чумы, на тэрыторыі Бельскага і Гайнаўскага паветаў, на заражаным абшары забараняюцца зборныя паляванні і адлоўліванне звярыны.

### Сабакі ў паліцыі

30 мая арлянская Гмінная ўправа атрымала адрасаваны войту ліст ад бельскага павятовага каменданта паліцыі, дзе інфармуецца, што ў 2017 годзе многа службовых сабак па прычыне састарэлага ўзросту выведзена са службы. Таму Ваяводская камендатура паліцыі ў Беластоку плануе куплю новых службовых сабак для мясцовых участкаў. Бельскай паліцыі неабходны сабака для вышуквання наркотыкаў; кошт яго куплі парадку сямі тысяч злотаў. Камендант звярнуўся з просьбай за дапамогай вартасцю ў адну тысячу злотаў; з такой жа просьбай ён звярнуўся ў Бельскую, Браньскую і Боцькаўскую гміны. Арлянскія радныя гэтай справай зоймуцца на жнівеньскай сесіі Гміннай рады.

**Міхал МІНЦЭВІЧ**

# Летні фэст над ракой Нараўкай



Пасля поўдня ў нядзелю, 22 ліпеня гэтага года, Галоўнае праўленне Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Беластоку і Гмінны асяродак культуры ў Нараўцы традыцыйна ўжо арганізавалі беларускі народны фэст. У нараўчанскі амфітэатр прыходзіла ўсё больш і больш людзей. Прыехалі некаторыя жыхары Альхоўкі, Лешукоў, Новага Ляўкова і Семяноўкі ды нават Беластока.

У пачатку канцэрта выступіў хор „Росніца” з Гродна (Рэспубліка Беларусь). Ён добра сябе адрэкамендаваў мілагучнымі галасамі і танцамі. Харысты мелі прыгожыя касцюмы. Словы песень у іх выкананні нам, беларусам Беласточчыны, ёсць вядомыя. Нашы мясцовыя песенныя калектывы некаторыя з іх ужо шмат гадоў спяваюць.

Пасля „Росніцы” на сцэну на беразе ракі выйшлі „Куранты” з Бельска-Падляшскага. Прыгожа спявалі члены гэтага хору — у ім усе мужчыны. Паплылі песні „Будзь здаровы гаспадар, будзь здарова гаспадыня” (я пачуў яе ўпершыню), „Зорачкі, зорачкі” ды песні пра Беларусь. Хорам кіруе Аліна Негярэвіч.

Цікава было паслухаць спеву юных салістаў з бельскай „тройкі” Вікторыі Гаць, Бартка Келзу і Анелю Хмур. Прыгожыя песні выбрала ім і падрыхтавала іх да выступу інструктарка Анна Вярцінская (яна працуе ў Бельскім доме культуры). Спявалі песні пра прыгажосць жыцця на роднай зямлі і пра каханне.

Затым прыгожа спявалі шырока вядомыя калектывы „Рэха пушчы” з Гайнаўкі (вядзе яго Аліна Негярэвіч), „Чыжавяне” з Чыжоў (кіруе ім Юрый Ганевіч) і „Васілёчкі” з Бельска-Падляшскага (кіраўніком яго Мікалай Фадзін). Выступалі яны ў прыгожых народных касцюмах. Спявалі і танцавалі пад гукі акардэонаў.

Трохгадзінны канцэрт закончыў сваім яркім і запамінальным выступам ансамбль беларускай песні „Церніца” з Мінска (Беларусь). Кіруе ім сужонства Галіна і Іосіф Несцяровічы. Як жа прыгожа заспявалі ў Нараўцы чатыры дзяўчыны і трох маладых мужчын! Вось маюць галасы. Яны таксама і танчылі. Гурт мае свой аркестр. Удзельнікі фэсту былі ў захапленні ад канцэрта. Такія як у гэты раз калектывы не бываюць у нас, у Нараўчанскай гміне, часта. Была гэта добрая нагода прыемна правесці вольны час і ўжывую паслухаць беларускія песні. Зараз тут спявалі выключна беларускія.

Тэкст і фота **Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**

Размова з дырэктар арлянскага Гміннага асяродка культуры **Аннай НЕСЦЯРУК**.

# Культурныя мерапрыемствы ў Орлі

Фота Аляксандра Вярбіцкага



Анна Несцярук і Міхал Мінцэвіч



Фота Аляксандра Вярбіцкага

**— Ці ўжо рыхтуецеся пераходзіць у новы будынак Гміннага цэнтра культуры?**

— Думаем пра той дзень, калі ён прыдзе, бо час бяжыць, але тыя думкі хутка нам прамінаюць, таму штосьці ў нас шматшмат паўсядзённай работы. Перад намі ўсе фэсты, запланаваныя на 2018 год. У плане юбілей дваццацігоддзя калектыву „Малінкі", таксама сёлета дзесяцігоддзе калектыву „Вэрвочкі".

Супольна з фондам Futurum матушкі Эвы Жухавіцкай, які надоўга дзейнічае ў нашай гміне, ладзім два праекты. Адзін мае за мэту стварэнне такіх убораў дзецям і моладзі з народнымі ўзорамі, але — так бы сказаць — паводле сучаснага дызайну. Гэтыя крэацыі мы запрэзентуем на Арлянскіх сустрэчах.

Другі праект, на які фонд атрымаў дафінансаванне, пластычны і будзе рэалізаваны летам — дзеткі створаць выстаўку нашай арлянскай архітэктуры.

**— Летнік у Орлі?**

— Скажу, што вельмі добра прайшоў візіт у Орлю дзяцей з Беластока — этнаграфічныя майстар-класы, ладжаныя аб'яднаннем АББА. Думаю, што яны вельмі задаволены візітам у нас. Дваццаць трое дзяцей, у супрацоўніцтве з арлянскімі Пачатковай школай і ГАК, правялі шмат сустрэч. У нядзелю 24 чэрвеня ГАК сарганізаваў ім сустрэчу з Міхалам Мінцэвічам, які пазнаёміў іх коратка з гісторыяй Орлі і паказаў цікавыя гістарычныя месцы. (Атрымалі яны аўтарскую кніжку „Орля. Сапраўдныя гісторыі", арлянскія паштоўкі ды гістарычныя артыкулы друкаваныя ў „Ніве" — М.М.) Мастак Юрка Асеннік распавёў пра маляванне муралаў і графікі. У ГАК сустрэліся яны таксама з народнай майстрыхай Зояй Майстровіч з Рудутаў, якая пазнаёміла іх з саламапляценнем ды прачытала некалькі вершаў са сваёй кніжкі. Дзеці сустрэліся таксама з войтам Пятром Сэльвесюком, якому ў падзяку заспявалі песню. З'ездзілі ў Маліннікі да Веры Нічыпарук, якая паказала ім лекавыя зёлкі і заспявала некалькі песень, якія моладзь вывучыла. Сустрэліся таксама з Уладзімірам Сасной з Пашкоўшчыны, які прачытаў ім некалькі сваіх вершаў; дзеці падзякавалі яму песняй. У Орлі дзеці наведалі яшчэ сінагогу, у якой пабачылі фільмы створаныя школьным рэгіянальным колам, з успамінамі жыхароў Орлі пра яўрэяў. Дзеці займаліся таксама на месцы: вучыліся танцаў, вышывалі, шылі льняныя мяшочкі, стварылі гербарый на беларускай мове. Станоўча ацэньваю арганізацыю такога летніка.

Традыцыйна, наш ГАК з 16 ліпеня ладзіць такі летнік і нашым дзецям, з паездкамі, спартыўнымі і пластычнымі заняткамі, выездам у беластоцкае кіно ды іншымі атракцыёнамі. Дзеці заўсёды рады нашаму летніку.

На другі тыдзень верасня прадбачаны Еўрапейскія дні спадчыны. Сёлета ў парку будуць арганізаваны розныя перформенсы. Будзе магчымасць наведаць сінагогу і царкву, дзе будзе выстаўка ікон. Майстар-класы даўніх танцаў запрэзентуе калектыў „Гістарыён" з Мінска.

У Арлянскай гміне прадбачваецца шмат атракцыяў, дзякуючы супрацоўніцтву і нашай працы, якая ўсіх вельмі ангажуе.

Як штогод, у пачатку жніўня завітае да нас міжнародны фестываль „Вэртэп". Думаю, што гэта вельмі прыцягальная прапанова і нашым жыхарам, і турыстам. Турысты могуць сядзець сабе ў Белавежы, а на мерапрыемствы ў любы месяц могуць прыязджаць у нашу гміну. І гэты цэнтр, які мы неўзабаве будзем адкрываць (канец верасня — кастрычнік), мяркую, зладзіцца з дзейнасцю Бельска, Гайнаўкі і суседніх гмін. Будзем адкрыты на ўсе прапановы супрацоўніцтва з тымі, якія ў меншасці дзеля падтрымкі гэтай культуры. Будзем таксама захоўваць сваю гаворку, ушаноўваць сваю гісторыю. Меншасці, што тут, на Падляшшы, таксама заўсёды змогуць звярнуцца да нас і сюды прыехаць. Будзе ў нас зала, дзе можна будзе арганізаваць канцэрты і ў зімовы час. Мяркую, што ў наступным годзе будзе ў нас больш атракцыёнаў чым сёлета. Не забываем таксама пра сваю супольную гісторыю, пра яўрэяў, якіх у нас ужо няма, а ёсць будынак сінагогі. Будзем ладзіць новую выстаўку дзеля ўзбагачэння памяці пра арлянскіх яўрэяў.

Нашы калектывы працуюць, выступаюць. Нядаўна „Арляне" былі ў Гродне на фестывалі меншасцей, выступалі на галоўнай сцэне на плошчы Леніна, заспявалі беларускую песню. А пасля мы выступілі на польскім падворку каля дома Элізы Ажэшка, дзе прэзентавалі беларускія і польскія песні.

У канцы красавіка ў Мінску цягам тыдня былі ладжаны майстар-класы для кіраўнікоў дамоў культуры, кіраўнікоў аматарскіх калектываў. Былі там удзельнікі з Літвы, Латвіі, Эстоніі, Італіі, Украіны, Расіі і дзве асобы з арлянскага ГАК. Далі яны нам новыя кантакты, знаёмствы. Пазналі мы, як працуюць аматарскія калектывы, напрыклад у Італіі. Мы часам гаворым, што ў нас цяжка, але меншасці, якія пражываюць у вялікіх краінах, маюць сапраўды цяжка. Мы прывезлі адтуль новыя ідэі наконт дзейнасці нашых калектываў, ідэі новых відаў працы ў новым Гмінным цэнтры культуры.

Сёлета адзначаем юбілеі. Дваццацігоддзе „Малінак" будзем святкаваць 15 ліпеня, а юбілей калектыву „Вэрвачкі" у восень.

Варта адзначыць, што на Міжнародным фестывалі „Вэртэп", які адбудзецца 4 жніўня ў Орлі, упершыню выступяць нашы дзеці з тэатральнага гуртка „Корнікі" і дзеці са школы, якія цяжка працавалі ў час тэатральных заняткаў і выступяць у рамках супрацоўніцтва з таварыствам з Палічнай. Варта быць і пабачыць працу нашых дзетак.

**— Дзякую за размову.**

Размаўляў **Міхал МІНЦЭВІЧ**

## Кветкі на гарадскіх вуліцах

Летам папрыгажэлі вуліцы ў цэнтры Гайнаўкі. Зрок цешаць кветкі ў новых вялікіх кветніцах, пастаўленых на тратуары вуліцы 3 Мая. Красуюцца яны і ў вазонах павешаных на бетонных слупах вулічнага электраасвятлення.

Вельмі прыгожа выглядаюць уквечаныя скрыжаванні з кругавой развязкай побач каталіцкага касцёла, дзе збягаюцца вуліцы 3 Мая, Белавежская і Варшаўская ды баптысцкага касцёла пры вуліцы С. Баторыя (тут прымыкаюць вуліцы С. Баторыя, а. А. Дзевятоўскага і Спартыўная).

Увагу прахожых звяртаюць на сябе кветкі на клумбах, між іншым, у мінісквэрыку перад будынкамі Гарадской управы і Павятовага старостава ды пошты. Гэты г.зв. зялёны акцэнт знаходзіцца ў трохвугольніку вуліц 3 Мая, Ю. Пілсудскага і А. Зіна. Летам Гайнаўка патанае ў зелені дрэў. Растуць тут ліпы, дубы, бярозы, клёны і іншыя дрэвы. Добра, што ўлады горада не забываюць, каб вясной, летам і восенню раслі ў ім таксама кветкі.

Варта дадаць, што ў папярэднія гады — 1965-1970 — было іх значна больш. У горадзе не было шырокіх тратуараў. Паабапал маставых гарадскіх дарог садзілі многа кветак. У прадпрыемстве „гарадская зелень" працаваў тады, як мне яшчэ помніцца, спадар Храбал, вельмі адданы справе чалавек. Пасля замяніла яго прыгожая жанчына па прозвішчы Лапата, якая вельмі любіла кветкі і ўквечвала горад. Я быў тады карэспандэнтам „Нівы" і „Газеты Беластоцкай" і браў у яе інтэрв'ю. Тэкст майго допісу меў загаловак „Гайнаўка патанае ў кветках". Для мяне гэта ўспамін паўвекавога мінулага з жыцця Гайнаўкі, яркі ўспамін пра цікавых добрых людзей, рупліўцаў. Я і тады ўжо шмат пісаў у „Ніву". Часта ездзіў з Новага Ляўкова ў Гайнаўку. Тут вучыўся ў агульнаадукацыйным ліцэі, меў сяброў-аднакласнікаў і не толькі, ды пару гадоў працаваў. Пазнаёміўся я тады з многімі асобамі і рознымі ўстановамі. **(яц)**

## Грыбны бізнес

Нашы лісічкі прадаюцца ўжо ў Нямеччыне за аднаго фунта (0,45 кілаграма;) трэба заплаціць 26.50 долара ЗША, што пасля пераліку на залатоўкі абазначае каля 92,75 злоты. А як у нас справа маецца? У мінулых гадах на пачатку прыватныя прапрымальнікі плацілі па 17 злоты за кілаграм. Як больш скуплялі, дык цану паніжалі. Як сяголета будзе, цяжка сказаць. Мой сябрук з Маліннік, Валодзя Данілюк сказаў, што хадзіў у лес, але лісічак не бачыў, Знайшоў адно пры дарозе баравіка прыстарэлага. Нічога больш. Значыцца, не паступіў яшчэ грыбны сезон. Засуха пашкодзіла. Будзем тады чакаць лепшага часу.

**Уладзімір СІДАРУК**





Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# зорка

для дзяцей і моладзі

ZACZAROWANY ŚWIAT MAKATEK



Zapraszamy do udziału w projekcie pt.: **"Zaczarowany świat makatek"** realizowany przez Stowarzyszenie Storczyk i Gminny Ośrodek Kultury w Narewce. W ramach projektu planowane jest podjecie działań na rzecz ochrony i popularyzacji makatek ludowych charakterystycznych dla miejscowości z terenu Gminy Narewka. Szczegóły pod nr. Tel. 85 6858034

PROJEKT FINANSOWANY ZE ŚRODKÓW WOJEWÓDZTWA PODLASKIEGO DEPARTAMENT KULTURY I DZIEDZICTWA NARODOWEGO

Zwracamy się z serdeczną prośbą do wszystkich, posiadających wyszywane makatki na czarnym tle i na lnie bądź makatki malowane, które dawniej były zawieszane w pokojach o udostępnienie w celu ich udokumentowania.
GOK Narewka





# Макаткі — жывыя карціны!

На Сустрэчы «Зоркі» прыехалі да нас спадарыні Кася Бяляўская і Нэля Харкевіч з Нараўчанскага дома культуры. Яны нам расказалі пра макаткі, іх сімволіку і гісторыю. Мы даведаліся, што макаткі вышывалі незамужнія жанчыны. Гэта быў іх пасаг.

Калі б мы паглядзелі на сённяшнюю сітуацыю, цяпер жанчыны не шыюць макатак. А шкада, таму што гэта жывыя карціны. Хаты з макаткамі прыгажэйшыя за іншыя.

Маем некалькі жанраў макатак: з кветкамі, птушкамі, звярамі, з краявідамі. Яны, паводле мяне, чароўныя!

На канец сустрэчы спадарыня Нэля Харкевіч пачаставала нас хатнімі хрустамі, або — як кажуць пад Нараўкай — «ганавічкамі». Мы таксама даведаліся мясцовыя назвы кветак, напрыклад, лілеі тут называюць «смаліносамі», таму што калі іх панюхаць, замурзаеш нос. Ад гэтай сустрэчы я зразумеў, што макаткі маюць у сабе тое «штосьці», што імі можна безупынна захапляцца... Мне не хапае слоў, каб расказаць пра іх прыгожасць.

Паводле мяне, не можна прайсці міма іх і не захапіцца.

**Коля ЗДРАЙКОЎСКІ,**
**Бусел, ПШ № 4 у Беластоку**



*Спадарыні Нэля Харкевіч і Кася Бялаўская*

Міра ЛУКША

## Зязюльчыны слёзкі

На пяці лісточках пакрытых рабаціннем
расце наша архідэя, хай толькі не згіне.
У лясах светлых, у мокрых лугавінах
расце рэдкая кветка з тым цікавым імем,
званая яшчэ стоплямкай, Хрыстовай рукою,
бо карэнне-бульбы — як пальцы пад зямлёю.
На сакавітай сцябліне кветка адмысловая,
фіялетавая, белая або і ружовая,
сабраная ў колас, ятрышнікам тыповы,
(дзе кожная кветачка мае губку і шпору,
хоць тою шпорай нікога не ўпора),
з якога шмат насення пасля высыпаецца.
І магло быць многа новых раслін, ды не маецца,
бо косяць лугі, рвуць кветку рэдкую ў свеце,
а мог бы яе зерне ўсюды сеяць вецер.
На кветку архідэі пчолка не сядае,
бо нектару звычайнага ятрышнік не мае,
толькі мушкі ўсялякія жвава запыляюць
зязюльчыну слёзку і свой доўг спаўняюць.
Дзе расце стоплямка — месца памятайце
ды аб тое месца правільна задбайце,
і ў крыўду зязюльчыну слёзку не дайце!
«Жыві нам, стоплямка!» — шчыра заклікайце.

## УВАГА КОНКУРС! № 31-18

**Крышталёвыя каралі**
**Ранкам на траве ляжалі.**
**Я сабраць хацела ўдзень,**
**Глянула — няма ндзе.**
**Р...**

**Уладзімір Мацвеенка**

## Загадкі з роднай хаткі

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку" да 12 жніўня 2018 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на загадку № 27-2018: рамонак.**
**Узнагароды, наклейкі, выйгралі Дам'ян Карнілюк і Вікторыя Гаць з Бельска-Падляшскага. Віншуем!**

# Мы павіны шукаць новых спосабаў патрыятызму!

Гутарка з **Міхасём Сцепанюком**, журналістам і настаўнікам, ветэранам Сустрэч «Зоркі», які павёў майстар-класы і стварыў разам з удзельнікамі радыёперадачу для Радыё Беласток на тэму «Мой герой-беларус».

**«Белы лес»:** — *Чаму Вы сталі журналістам?*

**Міхась Сцепанюк:** — Неяк так атрымалася. Думаю, у нейкай ступені дзякуючы Сустрэчам «Зоркі».

**«Белы лес»:** — *З Сустрэчамі «Зоркі» Вы звязаны з 1995 года, ад пачатку. Як Вы папалі на нашы майстар-класы?*

**Міхась Сцепанюк:** — Дзесьці ў чацвёртым класе я выслаў допіс у «Зорку». Да гэтага намовіла мяне спадарыня Валянціна Бабулевіч. А калісь, так як і цяпер, на Сустрэчы «Зоркі» едуць тыя, якія нешта пішуць. І я многа пісаў, адкрываў свет, у якім жыў, навучыўся мове.

**«Белы лес»:** — *Зараз Вы працуеце радыёжурналістам. Памятаеце, як першы раз Вы трымалі ў руках мікрафон і рабілі першую радыёперадачу?*

**Міхась Сцепанюк:** — Першы раз я трымаў мікрафон на Сустрэчах «Зоркі» ў Бандарах, калі да нас прыехаў журналіст Юры Каліна. І мы прыдумалі канцэпцыю, што сустрэчнікі будуць размаўляць з удзельнікамі і такім спосабам самі запішам перадачу пра сябе, для тэлебачання. Мы шмат працавалі, а атрымалася некалькі хвілін перадачы. Гэта мяне здзівіла.

Сваю першую радыёперадачу я запісаў у бельскай «тройцы» для Радыё Рацыя. Як выпускнік школы, я вельмі хваляваўся, перажываў.

**«Белы лес»:** — *Ці і Вы самі прыдумваеце тэмы, ці нехта Вам іх прапануе?*

**Міхась Сцепанюк:** — Гэта парознаму бывае. Часта трэба зрабіць перадачу з нейкай падзеі, туды пасылае рэдакцыя. Аднак, найчасцей, я выбіраю тэмы сам.

**«Белы лес»:** — *Вы працуеце таксама настаўнікам іспанскай мовы. Якая праца Вам больш падабаецца?*

**Міхась Сцепанюк:** — Думаю, што больш падабаецца мне праца настаўніка. Я люблю працаваць з моладдзю і вучу іх мове, якую сам люблю. Мае вучні — невыпадковыя, яны хочуць шмат навучыцца, папрактыкавацца. А калі ёсць ангажаванасць з боку моладзі, тады зусім іншы клімат працы.



фота Ганны Кандрацюк



**«Белы лес»:** — *Адкуль Ваша зацікаўленасць іспанскай мовай?*

**Міхась Сцепанюк:** — У ліцэі я быў лаўрэатам па беларускай мове і атэстат сталасці быў для мяне фармальнасцю. У час, калі сябры вучыліся да экзаменаў, я не меў што рабіць. Тады пачаў вывучаць іспанскую мову. Пасля я зацікавіўся мовай і краінай і люблю яе надалей. Я нават часам мару, каб з'ехаць і жыць у Іспаніі.

**«Белы лес»:** — *Вы фанат Іспаніі і патрыёт Беларусі. Калі першы раз пачулі пра БНР?*

**Міхась Сцепанюк:** — Гэта было ў пачатковай школе, на ўроках беларускай мовы.

**«Белы лес»:** — *Ці адзначаеце 25 Сакавіка?*

**Міхась Сцепанюк:** — Зразумела, адзначаю. Свята праводжу з сябрамі, або на працы, ствараючы перадачу аб гэтай падзеі.

**«Белы лес»:** — *Ці ёсць у Вас герой-беларус?*

**Міхаь Сцепанюк:** — Я пра герояў многа не думаў, але ў мяне іх шмат. Гэта прыстойныя людзі, якім магу давяраць, карыстацца іх досведам і вопытам.

**«Белы лес»:** — *Чым для Вас з'яўляецца сучасны патрыятызм?*

**Міхась Сцепанюк:** — Паводле мяне, мы надта часта вяртаемся да патрыятызму XIX стагоддзя, які заключаўся ў змаганні за нацыянальныя ідэі. Думаю, што мы павіны шукаць новых спосабаў патрыятызму, а не вяртацца назад. Я думаю, што быць патрыётам — гэта быць добрым чалавекам у адносінах да іншых людзей.

**Інтэрв'ю падрыхтавалі і ўзялі** *Кандрат Косцін, Караліна Ёдла, Магда Вайцешык, Малгажата Астроўская, Міхал Пахвіцэвіч, КлаўдзіяНіканчук, Дам'ян Дмітрук, Мікалай Абрамюк.*

**Апрацаваў** *Кандрат Косцін,* **перапісала** *Малгажата Астроўская.*

## Польска-беларуская крыжаванка № 31-18

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 27-2018:**

Сказ, міф, што, міска, акваланґіст, Іва, Саколка, кіт, ток. Марак, клік, свіст, кава, малако, ох, фінал, звук, шпінат, бартнік.

Узнагароду, запісную кніжку, выйграў **Дам'ян Карнілюк** з Бельска-Падляшскага. Віншуем!



*Да юбілею 60-годдзя «Белавежы»*

БЕЛАВЕЖА

# Спелае калоссе на абочыне дубіцкай дарогі

Янку Чыквіна, народжанага 18 траўня 1940 года ў Дубічах-Царкоўных, адкрыў у Бельскім белліцэі галоўны рэдактар «Нівы» і бацька «Белавежы» Георгій Валкавыцкі. Пад яго цёплай рукой, строгай ды неназойлівай, вылупляліся ў канцы пяцідзясятых і пазней белавежскія птушаняты, якія вастрылі свае пёры на старонках «Нівы», на сустрэчах-семінарах. Трапіў нават на першую, заснавальніцкую сустрэчу Беларускага літаратурнага аб'яднання 8 чэрвеня 1958 года ў Беластоку, 60 гадоў таму. І так малады летуценны Янка, Іван, хаваўшыся часам пад вельмі паэтычнымі псеўданімамі, як і звыклася ў беларускай літаратуры, будучы вядомы паэт, руплівы і натхнёны літаратуразнавец, рэдактар і выдавец, пачаў ад прозы, дэбютаваў у 1957 годзе як Янка Дубіцкі. Татулька белавежцаў меркаваў, што вырасце з яго добры празаік. Але не дачакаўся радаснага юбілею, які спраўлялі яго ўжо добра пасівелыя вучні і дзеці. Пра іх і вядуцца лекцыі ва ўніверсітэтах, між іншым пра паэзію Янкі Чыквіна і яго навуковую дзейнасць. А найбольшую радасць напэўна галоўнаму Лесуну Зубрыцкаму прынёс бы... кніжны празатарскі дэбют... 78-гадовага Яна Чыквіна, з 1989 года старшыні БЛА «Белавежа», рэдактара штогодніка «Тэрмапілы» (выдаецца з 1998 г.), прафесара Універсітэта ў Беластоку, чальца ПЭН-клуба, Саюза польскіх пісьменнікаў і Саюза беларускіх пісьменнікаў, аўтара дзесяткаў паэтычных і даследчыцкіх тамоў, між іншым, «Іду» (1969), «Святая студня» (1970), «Неспакой» (1977), «Светлы міг» (1989), «Кругавая чара» (1992), «Свет першы і апошні» (1997), «Крэйдавае кола» (2002), «Жменя пяску» (2008), «Адно жыццё. Выбранае» (2009), «На беразе Дубіч-Царкоўных» (2010), «Здарылася быць» (2015)... Выйшлі між іншым дзве кнігі літаратурна-крытычных артыкулаў Яна Чыквіна — „Далёкія і блізкія. Беларускія пісьменнікі замежжа" (1997) і „Па прызванні і абавязку" (2005). Між іншым з'яўляецца аўтарам зборніка выбраных перакладаў на беларускую мову з 54-х польскіх паэтаў XX ст., што аб'яднаны ў кнізе „Лісце срэбнай таполі"... Жыве ён у старадаўнім Бельску-Падляшскім, якога час спрыяе хіба ж спелай, нетаропкай, разумнай прозе, не толькі паэзіі.



Дубічы Царкоўныя, першая палова 60-х гадоў. Над рэчкай сваіх дзіцячых і юначых гадоў.

Але проза ўвесь час пісалася. Збіраліся ў памяці павевы крылля, згушчаліся колеры. Вось у 1976-1977 гадах:

«Прыснілася штосьці, чаго нельга адразу зразумець. Сяджу на ложку, як на беразе рэчкі — і ўглядаюся ў сон. Здаецца, што прысніўся мне першы раз. Праз столькі гадоў, надзвычай выразна, грукат у акно... Гэта было ў 1956-ым, можа 57-ым або нават 58-ым годзе. Я быў тады ў брата. У вёсцы пайшлі вялікія змены. Брат стаў старшынёю... Ляжаў першы, далікатны, баязлівы снег. Хтосьці збоку Грабаўца кінуў ноччу, шпурнуў з усёй сілы, камень у акно пакоя, у якім я ўжо заснуў. Тады — наколькі памятаю — не вельмі я спалохаўся. Усё прыняло на сябе сэрца. Але аказваецца, што ўдар каменя ў шыбу, гук распырскнутага шкла, грукат каменя па падлозе — усё гэта запісалася ў мазгах. І сёння ноччу, калі быў дарэшты змучаны фізічна, напружаны нервова, з архіва памяці выплыў колішні час, з яго непрадбачанымі гукамі... Я прачнуўся раптоўна, як тады, са стукатам сэрца да болю. І ў вачах з трохкрылымі птушкамі».

Гэта паэзія. Але гэта і рэальны ўспамін. Бо кніга, якая ўсё ж юбілейна і калярова прызямліцца на вашай паліцы, прыляжа на стол, прытуліцца да падушкі. Бо да кнігі прытуляешся духам, і чытаеш яе, нават кароткую, нават гадамі. Пакрысе, як глыткамі чыстай вады. Бы напіваешся чагосьці гаючага розум і раны на ўражлівым целе. Апісанне мігу самога аўтара, які ўзновіцца ў тваіх вачах, чытаючых нежывыя літары, нават пра штосьці вельмі былое і няўлоўнае: «Чытаю кнігу „Венецыя" Ярослава Івашкевіча.






Як міла чытаецца, што за стылістычная лёгкасць. Зачароўвае слова. Глыбока эмацыянальнае апісанне могілак. Магіла Стравінскага, Дзягілева ў Тарчэла». Як той цыкл «Трохкрылыя птушкі», якія павінны ляцець хутчэй і вышэй, з трэцім падмацоўваючым крылом, ды каму патрэбнае трэцяе крыло? Як трэцяя нага самай выдатнай балерыне? Майстэрства. Няма ў паэта-кніжніка лішніх слоў, і ў вершах, і ў прозе. Усе яны на момант хаваюцца паміж вокладкамі, каб ажыць, калі раскрыліць кнігу. Каб наступіў той момант адкрыцця таго хлопчыка з кнігай, філолага, што стаіць каля свайго таты пад дрэвам на панадворку ў Дубічах-Царкоўных. Абое яны з кніжкамі — бацька Арцём і Янка ўжо школьнічак.

Акрываецца зборнік апавяданнем пра любоў да слова, да кнігі хвалюючым апавяданнем «Кніжка ў зеленаватых вокладках». Напісана яно дарослым аўтарам, які вельмі паглыбіўся ў клімат, трапятанне малой душы, зразумеўшай разумнымі, добрымі і любўшымі красу людзьмі. Такія выхоўваюць дзяцей, не толькі сваіх, не менш уражлівымі ад сябе на веды, прыроду, праўду. Знаёмімся далей з добрым і бывалым дзядзькам Іванам, іншымі людзьмі і звярамі, перажыўшымі вайну. Бо і Янка сам — дзіця вайны. Памятае: «Было першае пасляваеннае лета». «Мы, народжаны ў гадах ліхалецця, пасапраўднаму яшчэ не ведалі ўсёй велічы нашай вясковай цішыні, у якой, як вокам кінуць навокал, ад далёкага чорнага лесу аж да самых вярхоў сінявы неба, стаялі доўгія дні, насычаныя нязнанай нам вечнасцю быцця». Дзеці тыя бачылі нежывых людзей, што ляжалі пасля пераходу фронту, шмат усялякай амуніцыі, якую, дарэчы, часам бралі дадому, хаця бацькі ўпрошвалі: «Ой, засталіся жывымі, слава Богу, — казалі, — то і трэба жыць». Аўтар лёгкім штрыхом умее ўвекавечыць момант раніцы, трапяткога, стынучага ад саладосці сонечнага поўдня, момант хлапечага жадання волі, цікаўнасці, страху, спроб хлапечай моцы і мужчынскасці, папахваючай дымком. І адчуваецца на змакрэлай спіне подых вайны, і смурод ад гакнуўшых яшчэ раз снарадаў».

Адчуваецца размах аўтара на «большую» прозу, але моц тут тае паэтычнай нялішнясці. Аповесць «Вяселле» (няхай спецыялісты па літаратуры разгадваюць жанр), кароткая, расказаная таропка, трапна замалёўвае лёс, матывы, гісторыю як са старажытнай трагедыі, хаця простую, свойскую. Такіх мы ведаем шмат з расказаў старыкоў, «як то было». Бо былі людзі, і ў вайну, і мір, справядлівыя, былі і зайздросныя, былі няшчасныя. Як і ў «Долі і Мары» (якія ж важкія імёны!), дзе каханне і смерць рука ў руку, а вера ў справядлівасць не заўсёды здзяйсняецца. Але ж трэба верыць, бо можа праўда хоць на тым свеце выплыве. А дабрыня і любоў ратуюць душы.

Абразкі, мініяцюры, імгненні. І «няскончанае маўчанне», добрыя кавалкі выдатнай прозы не толькі з ваколіц татавых палеткаў. Вандроўкі па шляхах, ад кніг еўрапейскай і сусветнай культуры — ад Гільгамеша да Рамэо і Джульеты, да нечуванай энергіі-інфармацыі ці дакумента, які захоўвае спрадвечнае. Успамін робіцца як галюцынацыя, і ў аўтара, і ў чытача, які схіляецца над словам і якое выклікае ў ім тую феерыю колераў, думак, спасылак на тое, што адкрылі іншыя. Аж да ненапісанага. Бо ж канчаткова застаецца МАЎЧАННЕ. «Мая сцежка на ўсё лета зафарбавалася неназванай тужлівасцю і гаркатой — ні то болем за марна страчаным часам, ні то сполахамі ранняй нязведанай вольнасці, ні то новай ціхай радасцю...». Не хачу раскрываць перад чытачом усяго, што выклікалі ў мяне гэтыя словы невялікай па памеры кнігі, няхай ён сам да яе дакранецца і набрыняе святлом і радасцю дотыку да Слова.

Міра ЛУКША

Ян Чыквін, *Трохкрылыя птушкі*, Бібліятэка БЛА «Белавежа», кніга 106, Беласток 2018.

6 жніўня 1915 года ў 4 гадзіны раніцы нямецкае войскі, што займала пазіцыі з боку Граева і Шчучына, выпусціла атрутны хлор у бок расійскай крэпасці Асавец. Да таго ж быў запушчаны артылерыйскі абстрэл па расійскіх абарончых умацаваннях, а пасля быў загад нямецкай пяхоце атакаваць расійскія пазіцыі. Газавая атака нанесла вялікія страты расійскаму войску, зусім непрыгатаванаму да абароны перад новым смертаносным сродкам. Аднак агульны тадышні поспех нямецкіх войск не быў ашаламляльны. Частка нямецкіх войск трапіла пад свае ж атрутныя газы, іншыя часці не маглі справіцца з расійскімі абарончымі загарадзямі і не ўсе расійскія часці былі выведзены са строю. Асабліва згадваецца тут пра контратаку рэштак абаронцаў расійскага фарпоста каля вёскі Сосня, якая ў літаратуры пра гэтую падзею атрымала назву „атакі мерцвякоў”. Асавецкая крэпасць выстаяла...




# Наканавальны Асавец


Фрагмент муроў цытадэлі


Фота з сеціва: Лінейка перад Асавецкай крапасной царквой

Не была гэта першая нямецкая атака па Асавецкай крэпасці. На зломе лютага і сакавіка таго ж года нямецкая артылерыя цягам тыдня інтэнсіўна бамбіла расійскія пазіцыі. Раней каля чыгуначнай станцыі Падлясак былі выгружаны магутныя нямецкія гарматы, калібрам ад 42 да 15 сантыметраў. Агулам 66 гармат выпусціла тады на ўсе ўмацаванні Асавецкай крэпасці каля двухсот тысяч цяжкіх снарадаў; з расійскага боку былі зафіксаваны каля трыццаці тысяч варонак — пад такім пякельным градам складана было займацца дакладнымі падлікамі. Самыя вялікія снарады вырывалі ў зямлі варонкі дыяметрам каля дзесяці метраў і глыбінёю да трох метраў. Большасць нямецкіх вогненных пазіцый была па-за абсягам расійскай крапасной артылерыі, таму была магчымая такая бамбардзіроўка.

Спецыяльнай увагі заслугоўваюць 42-сантыметровыя мінамёты. Выпускаў іх завод, заснаваны Альфрэдам Крупам у Эсэн, і названы яны былі „Тоўстай Бертай” у гонар унучкі заснавальніка канцэрна Берты Круп; ёсць таксама меркаванне, што магутныя мінамёты былі „ахрышчаны” ад адметнай поўнасці пацыфісткі Берты фон Зутнер. Усяго было выпушчана каля трыццаці такіх мінамётаў, якія галоўным чынам прымяняліся ў асадзе бельгійскіх і французскіх крэпасцей. 3 лютага 1915 года чатыры такія мінамёты былі завезены паблізу Граева. У ходзе перастрэлкі расійская артылерыя выбіла са строю дзве „Тоўстыя Берты” і больш яны пад Асаўцом не прымяняліся. Варта заўважыць, што снарады важылі каля тоны, а для абслугоўвання аднаго такога мінамёта патрабавалася каля 250 артылерыстаў...

Асавецкая крэпасць не была ўзята прамой атакай нямецкай арміі. Расійскае вярхоўнае камандаванне рашыла яе пакінуць, франтальна адступаючы на ўсход. Эвакуацыя крэпасці пачалася 18 жніўня, калі нямецкая армія стала падыходзіць пад Беласток з захаду; 22 жніўня яна заняла чыгуначную станцыю Кнышын. Эвакуацыя цяжкіх гармат у чарговую крэпасць, Гродна, адбывалася па г.зв. Царскай дарозе, якая была пабудавана ў канцы XIX стагоддзя дзеля спалучэння крэпасцей Ломжа, Асавец і Гродна. Кожную гармату цягнулі ўручную ноччу па трыццаць-пяцьдзясят чалавек. Іншыя грузы былі вывезены на падводах. У Сухаволі з асавецкага гарнізона быў сфармаваны асобны корпус, які падаўся ў гродзенскую крэпасць, якая неўзабаве таксама была пакінута.

Фартыфікацыі крэпасці былі часткова ўзарваны расійскімі сапёрамі. Поўнасцю быў разрушаны г.зв. Зарэчны форт, адзіны на правым беразе Бобры. Немцы занялі Асавецкую крэпасць 25 жніўня 1915 года.

Першая газавая атака была здзейснена нямецкім войскам 22 красавіка 1915 года пад бельгійскім горадам Іпр. І знакамітая большасць хімічнай зброі была скарыстана немцамі на Заходнім фронце. На Усходнім фронце першая газавая атака на расійскія войскі была здзейснена ў канцы мая таго ж года каля Балімава, што недзе пасярэдзіне паміж Варшавай і Лоддзю. Пазнейшыя хімічныя атакі былі праведзены ў 1916 годзе каля Ковеля і ў наступным каля Баранавіч. Спярша атрутныя газы прывозілі на баявыя пазіцыі ў металічных балонах і пры спрыяльным надвор'і выпускалі газ у напрамку праціўніка. Пад Асаўцом газавая хмара пацягнулася на шырыні каля васьмі кіламетраў на адлегласць дзесяці кіламетраў. Пазней хімічны зарад размяшчалі ў снарадах і стралялі імі па тылах праціўніка, такім чынам падвяргаючы меншай небяспецы ўласнае войска.

Царская дарога ад Асаўца да Стрэнковай Гары была пракладзена па балоцістай тэрыторыі. Рашэнне аб яе пабудове прыняў асабіста цар Мікалай ІІ, які, паводле анекдота, нарысаваў на карце прамую лінію, па якой яе і пабудавалі. Трэба было з грунту выбраць торф, пасля засыпаць палатно жвірам і шчэбенем. На гэтае мерапрыемства былі расходаваны вялікія грошы. Будавалі яе сіламі мясцовага беднага насельніцтва, якое пры нагодзе байкавата зарабіла. Не абышлося без дэфраўдацыі казённых сродкаў, у выніку чаго некалькі віноўнікаў павісла на шыбеніцах... У сённяшні час яе будова, пэўна, была б немагчымай, беручы пад увагу прыродную каштоўнасць рэчышча Бобры; Царская дарога ўнесла крыху змен у бобранскую экасістэму.

Асавецкая крэпасць была задумана ў палове XIX стагоддзя, як адно з крапасных звенняў дзеля абароны Расійскай Імперыі з захаду. Гэтая крэпасць мела бараніць інтэр'ер царскай імперыі з боку Усходняй Прусіі. Загад пабудовы Асавецкай крэпасці быў падпісаны імператарам Аляксандрам ІІ у 1873 годзе. Пабудова была здзейснена ў 1882-1887 гадах; у чарговых гадах была яна мадэрнізавана згодна мяняючымся патрабаванням ваеннай стратэгіі і тэхнікі. У чарговых гадах, аж па сённяшні час, здатныя для ўжытку аб'екты крэпасці займала і займае войска. У тым ліку і галоўны, Цэнтральны форт.

Адзін з гмінных ганёндзкіх парталаў: „Przez osiem lat powojennych w Twierdzy Osowiec nie było wojska. Dopiero w 1953 r. rozlokowano tu stacjonującą do dziś Jednostkę Wojskową. 9.X.1998 r. Twierdza Osowiec została wpisana do rejestru zabytków. W tym samym roku na terenie fortu I (Centralnego) staraniem Osowieckiego Towarzystwa Fortyfikacyjnego (OTF) zostało otwarte Muzeum Twierdzy Osowiec. Będąc w Osowcu-Twierdzy zauważymy wiele obiektów fortyfikacyjnych. Jednak niepowetowaną stratę poniesiemy, gdy świadomie lub w sposób niezamierzony ominiemy Fort I. I to nie tylko z powodu najlepiej zachowanych dzieł obronnych, Muzeum Twierdzy Osowiec, trasy turystycznej, czy też zdecydowanie największej sieci podziemi z dużym skupiskiem nietoperzy. Po prostu stracimy możność ujrzenia unikatowej roślinności. Tak się składa, że wśród tzw. samosiejek rośnie coś, o czym zazwyczaj nie mamy pojęcia. Jeżeli się dobrze wpatrzymy (bądź zasugeruje przewodnik) ukaże się naszym oczom między innymi karagana syberyjska i parczelina trójlistkowa. Znalazły się one w Twierdzy Osowiec za sprawą rosyjskich żołnierzy, którzy zasadzili je w celu maskowania wybranych miejsc, bądź jako element dekoracyjny. Na fortach gniazduje bielik i wiele innych ptaków. Na stałe zadomowiły się łosie, sarny, bobry, itd.” Прыгожа напісана, толькі той знакаміты Першы форт знаходзіцца на тэрыторыі вартаванай вайсковай часці...

Вікіпедыя: „В 1924 году европейские газеты писали о некоем русском солдате по фамилии Николаев, обнаруженном польскими властями в крепости Осовец. Как оказалось, при отступлении сапёры направленными взрывами засыпали подземные склады крепости с амуницией и продовольствием. Когда польские офицеры спустились в подвалы, из темноты по-русски раздалось: „Стой! Кто идёт?” Незнакомец оказался русским. Неся свою службу в строгом соответствии с воинским уставом, часовой заявил, что его может снять с поста только разводящий, а если его нет, то „Государь Император”. Часовой сдался лишь после того, как ему объяснили, что той страны, которой он служил, уже давно нет. 9 лет солдат питался тушёнкой и сгущёнкой, не потеряв счёт времени и приспособившись к существованию в темноте. После того, как его вывели, он потерял зрение от солнечного света и был помещён в больницу, а затем — передан советским властям. На этом его след в истории теряется”.

А цяпер хочацца крыху „пакалібаць”. Бо калі б нямецкая атака Асавецкай крэпасці ў лютым-сакавіку 1915 года дала станоўчы немцам вынік, тады расійскае камандаванне не змагло б здзейсніць эвакуацыі мірнага насельніцтва з тэрыторыі былой Гродзенскай губерні. Магчыма, што ў той час яно пра такую эвакуацыю і не думала. І калі б нават у жніўні 1915 года немцам удалося авалодаць Асавецкай крэпасцю і прарвацца на тылы расійскага фронту, тады таксама царскія ўлады не змаглі б так паспяхова прагнаць нашага насельніцтва са сваёй радзімы. Радзімы, адлеглай ад царскіх харомаў, у якіх наканавана ёй ролю спаленай зямлі.

У адказ на рапарт камандуючага крэпасцю генерала Бжазоўскага, цар Мікалай ІІ адказаў: „Выражаю самую горячую благодарность всему составу доблестного гарнизона Осовца.” І ў выніку гэтай доблесці тысячы і тысячы нашых землякоў чакала трагічная будучыня...

Тэкст і фота
**Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

1 ☞ працяг

# Трэцяя «Перапяліца» ў Тапорках

занне жніва з першай паловы мінулага стагоддзя, з выкананнем перапяліцы і паказаннем малацьбы збожжа і ачысткі зерня, якое рыхталі для сяўбы, дазволіла моладзі ўявіць, як цяжкай у мінулым была праца сялян і іх дзяцей у летні канікулярны перыяд.

— У нашай вёсцы ў мінулым збожжа жалі сярпамі. Пазней мужчыны сталі касіць косамі. Тады жанчыны падбіралі збожжа з пакосу, вязалі ў снапы і жніво праходзіла ўжо хутчэй. У шасцідзясятых гадах на нашы палі ўехалі конныя, а пасля трактарныя касілкі і здавалася, што аблягчэнне жнiўных прац вельмі вялікае. У нашых Тапорках касілкамі мы касілі збожжа яшчэ і ў дзевяностых гадах, а пазней збожжа сталі адразу малаціць на палях камбайнамі. Гэта было вялікае аблягчэнне, бо ўжо не трэба было восенню малаціць збожжа на панадворку і хадзіць малаціць у тых асоб, якія нам дапамагалі малаціць. Аднак бывае, што з-за дажджоў цяжка дачакацца, ажно збожжа даспее і добра насохне, каб можна было яго малаціць на полі сухім, — сказалі жыхары Тапорак.

— Жніво азіміны доўжылася каля двух тыдняў і завяршалася перапяліцай. Ярыну касілі пазней, але ў нашай вёсцы было яе намнога менш, — заявіў Віталіс Соха.

Тапоркі надалей захавалі сельскагаспадарчы характар. Сяляне не толькі апрацоўваюць палі, але займаюцца жывёлагадоўляй, перш за ўсё малочных кароў. Раніцай і перад вечарам каровы ідуць праз



■ Калектывы з Беларусі — «Завіца» з Раздзяловічаў і «Павалякі» з Обчына спявалі жніўныя песні

вёску ў статках па пяць або і дзесяць штук. Жывёлагадоўля перыяду сямідзясятых і васьмідзясятых гадоў мінулага стагоддзя ў Тапорках моцна мадэрнізавалася. Многія жыхары вёскі прыдбалі дадатковую апаратуру і сенаўборачную тэхніку. Калі жыхары Тапорак 22 ліпеня закончылі жніво, дзеткі збіралі яшчэ каласкі, так як гэта рабілі ў мінулым. Тады солтыс Вяслава Бакун і Віталіс Соха з хлебам прывіталі бургамістра Кляшчэляў Аляксандра Сяліцкага. Граданачальнік падзякаваў жыхарам Тапорак за цікавае паказанне колішняга жніва і самога фальклорнага абраду «Перапяліцы».

— У Тапорках перапяліца выконвалася на недажатым жыце або пшаніцы. Невялікае каменне або большы плоскі камень клалі збоку ўпрыгожанага збожжа, а на яго засцілалі абрусак і клалі «хлеб для зайчыка». Калі захварэла дзіцё, маці хадзілі па палях і шукалі гэты хлеб, паколькі верылі ў яго лячэбныя ўласцівасці ў адносінах да дзетак. Перапяліцу клалі пад збожжа ў новую клуню, а збожжа з зажынак асвячалі на Успенне Прасвятой Багародзіцы, — гаварыла народная паэтэса Зоя Майстровіч.

Пасля выканання перапяліцы жанчыны калектываў «Завіца» і «Паваляк» працягнулі прэзентацыю фальклору Палесся. Калектывы «Арляне» з Орлі і «Дабрына» з Беластока таксама спявалі жніўныя песні.

— Мы ўжо трэці раз у Тапорках прэзентуем абрад «Перапяліцы», які паказваюць перш за ўсё жыхары Тапорак. Наш асяродак культуры з'яўляецца суарганізатарам гэтага цікавага абрадавага мерапрыемства. Плануем арганізаваць у Тапорках абрад «Перапяліцы» таксама ў наступных гадах, — сказала дырэктар Гарадскога асяродка культуры, спорту і рэкрэацыі ў Кляшчэлях Малгажата Клімовіч.

Вяслава Бакун, Віталіс Соха і дырэктар Малгажата Клімовіч запрасілі ўсіх на пачастунак стравамі паводле даўніх рэцэптаў.

— Жыхары Тапорак падрыхтавалі таўканіцу, кашу, варэнікі з капустай, бульбяныя дранікі, халадзец з агуркоў і цыбулі. Пакрочылі мы агуркі і падрыхтавалі памідоры з цыбуляй, падпівак, кампот і іншыя стравы, якія елі нашы бацькі ў жніўны час. Незважае на ўскраіне поля жыта нашы жыхары ўпрыгожвалі кветкамі і рабінай. Каля такой перапяліцы паклалі мы сёння каменьчыкі, палатно і хлеб. Вельмі важна, што гэтаму абраду спадарожнічалі жніўныя песні, — сказаў Віталіс Соха.

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА




# http://academy.ethno.by

У красавіку „Ніва" пісала аб сайце Ethno.by — своеасаблівай анлайн-медыятэцы на тэму этнаграфіі. За гэты час з'явіўся яшчэ больш цікавы сайт, задача якога не толькі распавесці пра этнічныя і этнаграфічныя асаблівасці беларусаў, але і навучыць інтэрнэт-карыстальнікаў гэтай самай этнаграфіі. Дадзены партал мае назву „Этнаакадэмія" і знаходзіцца ў інтэрнэце па адрасе **https://academy.ethno.by**.

Насамрэч, „Этнаакадэмія" з'яўляецца міні-праектам па этнаграфіі, народных рамёствах і народным мастацтве, зрэалізаваным некалькімі арганізацыямі і нават мінскімі абласнымі ўладамі. Зразумела, без фінансавай падтрымкі з боку еўрапейскіх структур тут не абышлося. Як сцвярджаюць стваральнікі сайта, мэта праекта — павелічэнне дасяжнасці навучання ў галіне народнай культуры (традыцыйныя рамёствы, традыцыйнае мастацтва і тэарэтычныя веды па этнаграфіі) для захавання і пераемнасці традыцый, а таксама для іх практычнага ўжытку.

Якім жа чынам мусіць адбывацца гэтае павелічэнне дасяжнасці? Калі падыходзіць з сучасных ведаў, то даволі проста, бо атрымліваць нейкую інфармацыю, у тым ліку і навучальную, не выходзячы з уласнай кватэры, ужо не надта цяжка. І ў дадзеным выпадку распрацоўка праграм і рэалізацыя дыстанцыйных аўтарскіх лекцый дадатковай адукацыі для дарослых і моладзі ў сферы народнай культуры (традыцыйныя рамёствы, традыцыйнае мастацтва і тэарэтычныя веды па традыцыйнай культуры) праходзіць з выкарыстаннем тэхналогій масавых адкрытых анлайн-курсаў. „У рамках праекта рэалізуюцца 150 урокаў, згрупіраваныя па модулях і курсах (адзін курс — ад некалькі да некалькіх дзясяткаў урокаў, па патрэбе). Курсы рэалізуюцца на MOOC (Massive Open Online Course) — платформе stepik.org", — распавядаецца на галоўнай старонцы сайта.

„Этнаакадэмія" мяркуе навучаць, прыцягваючы да супрацы выкладчыкаў. Гэта адбываецца спачатку шляхам конкурсу выкладчыцкіх прапаноў курсаў. Потым, у сёлетнім жніўні-кастрычніку запланаваны здымкі курсаў і, у рэшце рэшт, іх публікацыя. Запісаныя ў рамках праекта курсы будуць без абмежаванняў дасяжныя анлайн на stepik.org. „Кожны чалавек зможа запісацца на курс, праслухаць лекцыі, выканаць праверачныя заданні і атрымаць электронны сертыфікат аб заканчэнні з пазнакай набраных балаў", — запэўніваюць стваральнікі „Этнаакадэміі". Адметна, што працу выкладчыкаў і аператараў, якія будуць распрацоўваць і здымаць курсы, кіраўнікі праекта абавязваюцца аплаціць. У сваю чаргу навучанне для тых, хто на яго запісаўся, абсалютна бясплатнае. Пры такіх умовах, праўдападобна, „Этнаакадэмія" здолее дасягнуць сваёй галоўнай мэты — павелічэння дасяжнасці навучання ў галіне народнай культуры.

Дарэчы, конкурс выкладчыцкіх курсаў партал абвясціў зусім нядаўна — напрыканцы ліпеня. Заяўкі ад кандыдатаў на ўдзел у праекце будуць ацэньвацца па самых розных крытэрыях — ад навуковай і практычнай вартасці курса ды яго ўнікальнасці да фотагенічнасці і дыкцыі выкладчыка, а таксама яго харызмы. Са 150 урокаў, па задумцы „этнаакадэмікаў", 120 мусяць быць зроблены выкладчыкамі, якія не пражываюць у Мінску ці Мінскім раёне Беларусі.

Па ўсім відаць, стваральнікі „Этнаакадэміі" падышлі да сваёй справы даволі сур'ёзна, і можа, сапраўды, у Байнэце з'явіцца сайт, які навучае этнаграфіі.

Аляксандр ЯКІМЮК

Дата з календара



Падзеі і асобы БНР



# 65 гадоў з дня смерці Сяргея Скандракова

Беларускі навуковец-аграном, журналіст, краязнавец, сучаснік Беларускай Народнай Рэспублікі Сяргей Скандракоў нарадзіўся 21 кастрычніка 1876 г. у горадзе Мглін Чарнігаўскай губерні. Цяпер гэты старажытны горад налічвае каля 8 тысяч жыхароў, знаходзіцца на тэрыторыі сучаснай Бранскай вобласці і ўваходзіць у склад Расійскай Федэрацыі.

Сяргей Скандракоў вучыўся спярша ў Слуцкай гімназіі, пасля закончыў Мінскую гімназію. Далей вучыўся ў Маскоўскім сельскагаспадарчым інстытуце, які закончыў у 1906 г. З біяграфіі вядома, што Скандракоў удзельнічаў у працы Мінскага таварыства аматараў прыгожых мастацтваў. У час першай расійскай рэвалюцыі 1905-1907 гадоў Сяргей Скандракоў быў сябрам Мінскага гарадскога камітэта Беларускай сацыялістычнай грамады. Таксама выдаваў і рэдагаваў двухмоўную газету „Голос Белоруссии". Праўда, выйшаў толькі адзін нумар гэтай газеткі — 1 студзеня 1906 г. у Мінску, пасля чаго была яна забаронена тагачаснымі расійскімі ўладамі. У газеце Скандракоў змясціў свой „крамольны" рэвалюцыйны твор „Казка пра голых і сабаліныя футры", а таксама вершы на беларускай мове Францішка Багушэвіча і Янкі Лучыны.

Сяргей Скандракоў — адзін з заснавальнікаў кніжнага таварыства „Мінчук". У 1907-1910 гг. у розных мінскіх газетах ён друкаваў палітычныя казкі. Пісаў пад псеўданімамі Сяргей Мглінскі і Янка з Вялікага Поля. З 1911 г. быў на пасадзе дырэктара доследнага поля ў Палтаўскай губерні на тэрыторыі сучаснай Украіны. З 1921 г. быў дырэктарам беларускай агранамічнай станцыі ў Банцараўшчыне. Меў пасаду прафесара Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі. Пазней працаваў у Інстытуце беларускай культуры — у 1923-1925 гадах быў там адказным сакратаром Цэнтральнага бюро краязнаўства, аналагічную пасаду займаў у Беларускім навукова-даследчым інстытуце сельскай і лясной гаспадаркі.

У час савецкіх сталінскіх рэпрэсій Сяргей Скандракоў таксама пад іх патрапіў. 6 ліпеня 1930 г. яго арыштавала ДПУ БССР па справе так званага „Саюза вызвалення Беларусі". Навукоўца засудзілі паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 10 красавіка 1931 г. з фармулёўкай за „шкодніцтва і антысавецкую агітацыю" да 5 гадоў пазбаўлення волі. Турэмны тэрмін адбываў на тэрыторыі Расіі ў горадзе Яраслаўль. Вызваліўся 15 лістапада 1934 г. Пасля вызвалення з турмы займаўся далей навуковай і педагагічнай работай. Працаваў у розных гарадах Савецкага Саюза — у Яраслаўлі, Мічурынску, Душанбэ, Алмаце, Карагандзе. Хутчэй за ўсё таму, што шмат пераязджаў, пазбег паўторнага арышту і верагоднай гібелі.

Сяргей Скандракоў — аўтар апавядання „Аграном Сэрадзэля" (1924), навукова-папулярных нарысаў па агранамічнай справе, артыкулаў па краязнаўстве. Вядома, што Скандракоў збярог жывапісныя творы Каруся Каганца „Тып беларуса" і „Зімовы пейзаж". Быў асабіста знаёмы з Янкам Купалам і Якубам Коласам, перапісваўся з расійскім пісьменнікам Уладзімірам Караленкам. Сяргей Скандракоў — прататып літаратурнага Кандаковіча ў знакамітай трылогіі Якуба Коласа „На ростанях".

Звесткі пра асабістае жыццё Скандракова нешматлікія. Вядома, што быў жанаты, меў дзяцей. Памёр Сяргей Скандракоў 2 жніўня 1953 г. Быў рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР толькі пасля смерці — 15 лістапада 1957 г.

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

KWARTET RODZINY OSTAPCZUK / КВАРТЭТ СЯМ'І АСТАПЧУКОЎ
ROZŚPIEWANY GRÓDEK / РАССПЯВАНЫ ГАРАДОК
DZIECI Z MICHAŁOWA / ДЗЕЦІ З МІХАЛОВА
PAWEŁ MAKAREWICZ / ПАВЭЛ МАКАРЭВІЧ
SŁOWIAŃSKA NUTA / СЛАВЯНСКАЯ НОТА
JESIENNY LIŚĆ / ВОСЕНЬСКІ ЛІСТ
JASKÓŁKA / ЛАСТАЎКА
LAILAND / ЛАЙЛАНД
CHUTAR / ХУТАР
VIESNA / ВЭСНА
FENIX / ФЕНІКС
HAJ / ГАЙ

BIAŁORUSKIE SPOTKANIA FOLKOWE
Беларускія Фольк-сустрэчы
Michałowo / Міхалова 2018

MIKRON / МІКРОН
KALINKA / КАЛІНКА
GUDA (BY) / ГУДА (BY)
OMORFOS / АМОРФАS
BAHACZ (BY) / БАГАЧ (BY)
CZYŻOWIANIE / ЧЫЖАВЯНЕ
ŚPIAWAJ DUSZA / СПЯВАЙ ДУША
BRACIA DANIŁUK / БРАТЫ ДАНІЛЮК
CZERWONE SZPILKI / ЧЫРВОНЫЯ ШПІЛЬКІ
TAUTĪBU STUDIJA (LV) / TAUTĪBU STUDIJA (LV)
DAWID SZYMCZUK BAND / ДАВІД ЩЫМЧУК БЭНД

GWIAZDY / ЗОРКІ:

БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ АНСАМБЛЬ НАРОДНАЙ МУЗЫКІ «СВЯТА»
SWIATA (BY)

REDLIN FOLK MUSIC SHOW
РЕДЛІН (PL)

ROBERT KOZMUS ZAPRASZA NA KAWE Z MLEKIEM!
КАВА З МАЛАКОМ (PL)

4 SIERPNIA 2018 / 16.00-2.00 / MICHAŁOWO
AMFITEATR MIEJSKI

# Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — персідскую пагаворку.

1. правы прыток Волгі = 5 _ 13 _ 9 _;
2. бітва, схватка = 4 _ 17 _ 18 _;
3. абурэнне, злосць = 21 _ 19 _ 20 _ 15 _;
4. сталіца Катара = 23 _ 3 _ 1 _ 22 _;
5. жонка Адама = 25 _ 27 _ 26 _;
6. расійская аўтаномія ў вярхоўях Енісея = 16 _ 24 _ 10 _ 11 _;
7. перыяд палавой актыўнасці ў сабак = 7 _ 28 _ 29 _ 31 _ 30 _;
8. Герман, другі савецкі касманаўт = 8 _ 6 _ 2 _ 14 _ 12 _.

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 28 нумара**

Кебіч, стог, бязмен, матуз, ніць, забава, дзежка, яма, купалле, руда, ар, Мадрыд, цокаль, хрэн, ардынатар, ніз.

Рашэнне: **Нічога не завадзіць, як дурны разумнаму парадзіць**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | 1 | 2 | 3 |
| | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 |
| | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 |
| | | | | 16 | 17 | 18 |
| 19 | 20 | | | | | |
| | | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 |
| | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | 31 |

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7[00] – 18[00].

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**

BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład:** 1 000 egz.

# 05.08 — 11.08

**(22.03. — 20.04.)** Многа энергіі. Знакамітая форма. Поспехі і папулярнасць. Дзякуючы сваёй актыўнасці і добрым задумам дасягнеш мэту сваіх мараў. 5-8.08. не будзь лішне самаўпэўнены. 5-9.08. твой пачуццёвы радар пачне прымаць любоўныя сігналы. 8-10.08. зможаш зрэалізаваць творчы праект. З 10.08. не дзейнічай без плана.

**(21.04. — 21.05.)** 5-8.08. тваёй дапамогі можа патрабаваць сям'я; можа хтосьці старэйшы з радні. Раптоўныя павароты акцыі могуць цябе ашарашыць, але часовыя перашкоды будуць меншыя, чым думаеш. У фірме можа прыйсціся табе замяніць калег або нават і шэфа. 8-12.08. можа агарнуць цябе меланхолія, з 10.08. можа табе здацца, што ўсё на свеце стала супраць цябе; не перажывай!

**(22.05. — 22.06.)** У жыцці цікавей, у сэрцы цяплей. Добра ў нялёгкай працы, спакой духа. 5-8.08. старайся не паддавацца сваім захцявайкам. 5-9.08. рамантычная вячэра са сняданкам. 8-10.08. усё тое, што да гэтай пары было для цябе цяжкім, пераможаш лёгка і хутка. 10-12.08. старайся не рабіць старых памылак.

**(23.06. — 23.07.)** Не дзейнічай пад уплывам эмоцый. Глянь на ўсе справы з адлегласці, усё стане лягчэйшым. Нялёгкія абавязкі і задачы. Вырашыш сардэчныя лады. Апошні званок, каб ратаваць сваю пару. У пары, дзе ўсё добра, магчымыя нейкія скрыгаты. 8-12.08. не забудзьце пра гадавіны. На працы слухай, што вакол робіцца, пераглянь старыя дакументы. 10-12.08. можаш стаць ахвярай гневу шэфа. Горшыя вынікі медычных абследаванняў — не прычына для панікі! Але варта будзе змяніць стыль жыцця.

**(24.07. — 23.08.)** 5-8.08. карціць цябе будзе непатрэбная рызыка. 8-10.08. найлепшы момант на размовы аб працы, экзамены і публічныя выступленні. Час спрыяе зменам у лепшы бок. Вакол цябе будзе поўна знаёмых — не ўсіх варта называць прыяцелямі, асабліва сярод знаёмстваў, наладжаных у час зацьмення Сонца (10-12.08.). 10-12.08. можаш атрымаць службовае пісьмо, якое можа цябе занепакоіць (не нервуйся).

**(24.08. — 23.09.)** Уключы адпачынак! Набірай сілы на наступныя прыгоды і знаёмствы. Маеш час на ўпарадкаванне многіх спраў. Удачы ў найважнейшых мерапрыемствах. Увесь месяц карысны для тваўго кашалька. 5-6.08. можаш апынуцца ў нявыгаднай сітуацыі. 8-10.08. на момант будзеш неаб'ектыўны. Аслабленне імунітэту; дбай асабліва аб горла.

**(24.09. — 23.10.)** У жніўні адчуеш, што ўвесь свет любіць цябе, а твае задумы выклікаюць фурор. З 10.08. знойдзеш выхад з нялёгкай сітуацыі. Але 8-12.08. можа быць момант, калі адзін астанешся са сваімі праблемамі. Самотныя Шалі будуць папулярныя, адчуўшы сваю сілу і красу. Апагей сексапілю: 9-12.08. 10-12.08. адна асоба папросіць аб прыслугу, задумайся ці няма ў тым «другога дна». На працы будуй калектыў, добра на гэтым выйдзеш; супрацоўніцтва ўдалае аж да 31.08.

**(24.10. — 22.11.)** Можаш дасягнуць тое, што здавалася б быць немагчымым, пачаць дзейнасць у зусім іншых галінах. Новыя магчымасці, удачы 8-12.08. не паўтарай старых памылак у пачуццях, не разыходзься. 7-10.08. сусед можа заліць тваю кватэру, забяспечся. 5-8.08., хоць не будзе лёгка, пакажы што патрапіш на працы. 10-14.08. можаш адчуць сябе адсунутым на бакавыя пуці. З 10.08. (да 25.08.) будзеш у рэлігійных і філасафічных пошуках.

**(23.11. — 22.12.)** 5-8.08. можа падарвацца твой аўтарытэт. 8-10.08. найлепшыя задумы. 10-12.08. усе твае планы могуць кончыцца паразай. З 7.08. можаш набыць вельмі густоўныя дадаткі на шлюб. Стралец з пералому II і III дэкады закахаецца (10-25.08.). 10-14.08. адновяцца старыя знаёмствы. Схадзі да дантыста.

**(23.12. — 20.01.)** 5-6.08. няпростыя, нявыгадныя рашэнні. 10-12.08. можаш страціць арыентацыю. Афармляй самыя важныя справы, бо шмат цяпер можаш зрабіць. Сіла і трываласць. 8-12.08. можаш парабіць вялікія парадкі. Дзьмухай і хукай на сваё здароўе.

**(21.01. — 19.02.)** Усе шалеюць за табою! 5-9.08. раманы і любоўныя прыгоды. 5.08. магчымыя спрэчкі з каханай асобай. Моцна падкручаны тэмп падзей. 10-12.08. акажацца, што кампліменты і падарункі табе неабавязкова належацца. Не рві старых знаёмстваў. Цяжка вучыцца новых ведаў, хаця будуць магчымасці павышэння. Не ляпні лішняга слова, асабліва шэфу. Пільнуйся ад выпадкаў, аварый, кантузій, апаранняў, таксама ад раслін.

**(20.02. — 21.03.)** Будзеш добра гуляць і адпачываць. Зоймешся домам, сваімі справамі. Асцярожна з раманамі. 10-12.08. трэба будзе пасвяціцца сям'і. 10-12.08. не паддайся інтрыганам. 9-12.08. хтось блізкі можа цябе падвесці, параніць.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

**Ці беластачан могуць натхняць культурна адметныя людзі? Што нам дае ўзаемнапраніканне падляшскай народнай музыкі з музыкай з іншых частак свету? Напэўна гэта стварае новую якасць, якая рухае, вучыць і ўмее зацікавіць, — аб гэтым можна было пераканацца падчас XI Міжнароднага фестывалю музыкі, мастацтва і фальклору «Падляшская актава культур». Як штогод выступілі гурты з Польшчы і замежжа. Іх культурныя карані пераплятаюцца, а вынікам з'яўляецца цікавая і разнастайная музыка.**


■ «Жэмэрва»

# «Актава» ў дыялогу з гарадской прасторай

— Думка наладзіць такі фестываль нарадзілася дваццаць гадоў таму, — сказаў ініцыятар «Падляшскай актавы культур» Анджэй Дырдал. — З калектывам «Курпе зялёныя» мы ездзілі на шматлікія фестывалі. Мне здавалася, што і ў Беластоку варта было б сарганізаваць цікавы фольк-фестываль. У нас, на Падляшшы, сем нацыянальных меншасцей. Дзе ж арганізаваць шматкультурны фестываль як не тут?

Каля 600 выступоўцаў, 28 калектываў і рэкордныя 27 мясцовасцей. У сераду, 25 ліпеня, стартаваў XI Міжнародны фестываль «Падляшская актава культур». Былі танцы і фальклорная музыка. На сцэне выступілі калектывы з Сербіі, Грузіі, Украіны, Чэхіі, Македоніі, Албаніі і Польшчы. У час канцэртаў у Беластоку выступіў беларускі калектыў «Жэмэрва» ды этна-трыо «Троіца».

— У нас была такая мэта, каб запрашаць суседзяў з-за ўсходняй мяжы, — адзначыў дырэктар Ваяводскага асяродка анімацыі культуры Цэзары Мелька. — У гэтым годзе маем два беларускія гурты. «Троіца» прэзентуе фальклор, але ў сучасны спосаб. Гэта нам вельмі падабаецца! Таксама маем калектыў «Жэмэрва» з Бельска-Падляшскага.

## «Культурызм» па-падляшску

Першы дзень мерапрыемства сцягнуў на беластоцкую плошчу Касцюшкі дзясяткі гледачоў. На сцэне можна было пабачыць гурты з Польшчы, Грузіі і Сербіі. У час інаўгурацыі фестывалю другім па чарзе выступіў беларускі калектыў «Жэмэрва» са Студзіводаў.

— Нам прыемна, што мы трапілі ў першы дзень і што можам крыху паказаць нашу традыцыйную культуру, якой горад жыў таксама, ды паказаць яе шырэй, — адзначыла Анна Фіёнік, кіраўнік калектыву «Жэмэрва», — і пабачыць іншыя калектывы і іншыя культуры тут, на «Актаве культур».

Плошча Касцюшкі ў час мерапрыемства запаўняецца людзьмі. Столікі ў бліжэйшых рэстаранах ужо раней заказваюць зацікаўленыя музычным відовішчам аматары фальклору.

— Я жыву ў Чорнай-Беластоцкай. У нас таксама будзе канцэрт у рамках «Актавы культур», але я не магла дачакацца і прыехала, — кажа Люцына, якая прыйшла на фестываль з сяброўкамі з праваслаўнага хору. — Я на пенсіі стала такой «культурысткай», прымаю ўдзел ва ўсіх цікавых мерапрыемствах, якія праходзяць у рэгіёне. Сёння хацелася мне паслухаць «Жэмэрву». Гэта наш фантастычны калектыў.

«Актаву культур» адкрыў выступ падляшскага калектыву «Курпе зялёныя». Гэты падляшскі ансамбль сёлета адзначае 65-гадовы юбілей.

— Я думаю, што тая вялікая сцэна перш за ўсё патрэбна дзеля таго, каб прэзентаваць нашы падляшскія жамчужыны. Таму нашу імпрэзу адкрываюць выступы гуртоў «Жэмэрва» і «Курпе зялёныя», — падкрэсліў Цэзары Мелька.


■ «Троіца»

http://www.woak.bialystok.pl/





У час «Актавы культур» у Беластоку выступіў адзін з самых папулярных беларускіх фольк-гуртоў «Троіца».

## Канцэрты па ўсім рэгіёне

Фестываль «Падляшская актава культур» наведаў дваццаць сем мясцовасцей на Падляшшы, між іншым Белавежу, Гайнаўку, Бельск-Падляшскі, Заблудаў, Нараўку ды Гарадок. Канцэрты адбыліся ў вялікіх і малых гарадках. На сцэне побач з сабою выступалі танцавальныя калектывы, аркестры, хары ці невялікія вакальныя групы. Традыцыйная музыка дамінавала, але сёлета таксама было можна пачуць шмат фальклорных песень у сучасных аранжыроўках.

— У ліпені ўсе дарогі вядуць на «Падляшскую актаву культур», таму што гэта свята, якое палюбілі як жыхары Беластока, так і турысты, — адзначыў у час адкрыцця мерапрыемства віцэ-маршалак Падляшскага ваяводства Мацей Жыўна. — Гэта час, калі наш рэгіён становіцца еўрапейскім цэнтрам мультыкультуралізму, і гэта гонар, і радасць. Гэта час, калі варта наведаць Беласток, пабачыць на свае вочы, што культура з'яўляецца лепшай плоскасцю для фармавання агульнай павагі і сімпатыі, і ў той жа час мецьмагчымасць для вялікага задавальнення.

У чацвер (26.07.) адбыўся парад народных танцавальных і музычных калектываў з усяго свету. Праз цэнтр Беластока ўрачыста прайшло больш за 14 калектываў. Упершыню на фестываль прыехалі госці з Албаніі і Чэхіі.

Уршуля ШУБЗДА

ISSN 0546-1960